PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 4 (2019) ГОД XL   БЕЛАСТОК 22 СТУДЗЕНЯ 1995 г.   ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Рака Нараўка каля Ляўкова ў зімовай красе.* Фота Янкі Целушэцкага

## Лякарствы для Гайнаўкі

— Пачкі з лякарствамі прыходзілі ў Гайнаўку рэгулярна, раз у год, — паведаміла ардынатар Дзіцячага аддзела гайнаўскай бальніцы спадарыня Хрысціна Бадакоўская. Лякарствы праз пасрэдніцтва фундацыі International Aid (Міжнародная дапамога) накіроўваў у Гайнаўку спадар **Мікола Пpycкі** са Злучаных Штатаў Амерыкі. Мікола Прускі — асоба вядомая ў кругах беларускай эміграцыі ў ЗША як друкар, выдавец часопіса „Беларускі Свет" і газеты „Беларускі Дайджэст".

— Агулам атрымалі мы чатыры пасылкі, — сказала ардынатар Х. Бадакоўская. — Усё гэта пачалося ў снежні 1991 года, калі атрымалі мы сем пачак. Што ў іх было? Перад усім былі там лякарствы асноўнага ўздзеяння, якія больш прыдатныя ў амбулаторным лячэнні, а не ў бальніцы. Тым не менш былі там і антыбіётыкі, з якіх мы карысталіся на дзіцячым аддзеле ў нашай бальніцы. Усе гэтыя прэпараты мы раздзялілі для паасобных пунктаў аховы здароўя ў нашым раёне. Наступная пасылка прыйшла ў чэрвені 1992 года, склалася на яе 9 пачак. Былі ў іх перад усім супрацьліхаманкавыя лякарствы, крышку антыбіётыкаў, але таксама і пластыры, рукавічкі ды шмат штоіншае. Як і папярэднім разам, мы гэта падзялілі паміж пунктаў аховы здароўя ў нашым раёне. Чарговая пасылка, якую мы атрымалі ў маі 1993 года, складалася з 11 пачак. Быў там сапраўды вялікі набор лякарстваў і, трэба гэта адзначыць, набор гэты быў выпрафіляваны — галоўным чынам былі там лякарствы для дзяцей. Гэтым разам лякарствы трапілі таксама ў пункты па-за Гайнаўкай: Нарву, Нараўку, Чаромху, Чыжы. Чацвёртую пасылку лякарстваў атрымалі мы ў маі 1994 года. Атрымалі мы 12 пачак — прыняцце гэтых дараў супала ў часе з прыездам да нас жонкі спадара Міколы Пpycкaгa — Веры. У пачках, акрамя лякарстваў, было шмат гігіенічных сродкаў, як мыла, шампуні, крэмы... Гэта нас у нашай цяжкай матэрыяльнай сітуацыі моцна падратавала. Сродкамі гэтымі, дарэчы, карыстаемся яшчэ і сёння.

Што ж, усё яшчэ жывем і карыстаемся бясплатнай аховай здароўя — прынамсі фармальна. Фактычна ж, кожны з нас штораз мацней адчувае кошты лячэння — нават у такіх, здавалася б, банальных выпадках як прастуда. Паводле слоў спадарыні Х. Бадакоўскай штораз часцей здараюцца такія сітуацыі, як гэтая: лекар выпісвае рэцэпт для дзіцяці, а маці кажа яму: „Навошта вы гэта пішаце. І так няма за што купіць". Тым большага значэння набывае тут дапамога, якую арганізаваў для Гайнаўкі спадар Мікола Прускі з ЗША.

**Аляксандр Максімюк**



*Вера Пруская і Хрысціна Бадакоўская.*

## Сто мільёнаў на дапамогу Марыльцы

4 студзеня на сваёй дзесятай, і першай у новым годзе, сесіі сабралася Гарадская рада Бельска-Падляшскага. Пасяджэнне праходзіла ў вялікай зале Бельскага дома культуры, упрыгожаная на карнавал — у кутку ёлка, над галовамі маскіровачная сетка з каляровымі серпанцінамі, на сценах шарыкі-бомбкі, упрыгожанні з залатых і срэбных паперак.

Пачалося аднак не святочна. Радны Мар'ян Лучай з клуба „Jedność" выказаў сваё здзіўленне, што ў парадку дэбатаў няма пункта аб адкліканні з пасады бурмістра Андрэя Сцепанюка. Прычынай гэтага мелася быць ранейшае звальненне сакратара і скарбніка Гарадской управы і аб'яўленне на гэтыя функцыі конкурсу, які прайшоў 23 снежня мінулага года. Пасля 40-хвіліннай дыскусіі старшыня рады скіраваў справу ў рэвізійную камісію і пасля таго, як выкажуцца яе члены, пункт аб адкліканні бурмістра можа разглядацца на наступнай сесіі.

Спекуляцыі на гэту тэму можна было б і закончыць, але беластоцкія газеты і радыё ў пэўны момант пісалі і гаварылі так, як быццам Андрэю Сцепанюку заставаліся лічаныя гадзіны на пасадзе бурмістра Бельска. Старшыня рэвізійнай камісіі Міраслаў Талвінскі, у перапынку, прадставіў мне пункт гледжання на гэта клуба „Jedność": „Не верым мы, што можна адклікаць бурмістра, але такім спосабам паказваем сваю нязгоду на пэўныя рашэнні, у гэтым выпадку звальненні, тым больш крыўдныя, што ў святочны час. Яшчэ можна зразумець звальненне сакратара, бо гэтая асоба павінна быць правай рукой бурмістра, але ўжо скарбніка, то я ведаю...? Праўду сказаць, то мы цяпер у руках Бельскай кааліцыі, яны нас усіх могуць паадклікваць. Але гэта не значыць, што мы моўчкі мусім пагаджацца на ўсе рашэнні большасці. Мы ж прадстаўляем свой электарат".

Далей сесія пайшла сваім парадкам. Адносна згодна былі прыняты новыя Статут горада і Рэгламент працы Гарадской рады. З цікавейшых запытанняў радных варта адзначыць прапанову Сяргея Лукашука, каб у цэнтры горада забараніць рух грузавікоў ды іншых цяжкіх машын. Даючы справаздачу з дзейнасці Гарадской управы між сесіямі, бурмістр рассакрэціў планы адносна павышэння цаны білетаў на гарадскі транспарт. Бурмістр запрапанаваў, каб ад 1 сакавіка звычайны білет каштаваў 46 грошаў (цяпер 40 грошаў або 4 тысячы старых злотых), а 1 кастрычніка падаражэў яшчэ на 20%.

На сакратара Гарадской управы Рада назначыла Раісу Іванюк, працаўніка Управы з 1987 года. У апошні час была яна інспектарам па справах гандлю. Гарадскім скарбнікам стала Галена Бушко, якая больш за 20 гадоў працавала ў фінансавых аддзяленнях розных устаноў і фірмаў. У 80-ыя гады была, між іншым, кіраўніком фінансава-бюджэтнага рэферата Управы Бельска. Цяпер пані Бушко з'яўляецца таксама гарадской раднай са спіска Бельскай кааліцыі. Абедзве асобы былі адобраны конкурснай камісіяй.

**Гарадская рада Бельска-Падляшскага, аднадушна, прызнала 100 мільёнаў злотых (у старой валюце) на дапамогу настаўніцы беларускай мовы ў Пачатковай школе н-р 3 Марыі Базылюк-Саснюк, якую чакае складаная і каштоўная аперацыя прышчаплення касцявога мозгу.**

М. В.

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Polskie dowództwo wojskowe składa się z generałów — absolwentów akademii sowieckich, gdzie ich przekonywano o priorytecie obrony interesów wielkiej sprawy komunizmu. Obrony nie demokracji, o której, jak wykazuje ich postępowanie, nie mają pojęcia, ale socjalizmu, z którym wyraźnie się jeszcze nie rozstali. I obrony nie władzy cywilnej, ale interesów munduru, korporacji... Na wschód od Łaby wojsko przez długie dziesięciolecia służyło wyłącznie interesom dyktatury.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 304 — 1994—1995 r.)*

***

*У Горадні сваю „вертыкаль" Лукашэнка рабіў у Палацы хімікаў. На вуліцы яго сустрэлі некалькі тысяч чалавек з плякатамі крытычнага зьместу. Каб завяваць прыхільнасьць, Лукашэнка пахваліў залю: „Здесь живут пахари — люди, умеющие работать. Они ненавидят жуликов, коммерсантов". Але, высьветлілася, не толькі іх. Бо прэзыдэнт усё ж не стрымаўся, сказаўшы: „Я вижу в зале людей, которые не просто ненавидят, а люто ненавидят президента". Зала адказала яму сьмехам.*

*(Свабода, н-р 48 — 1994 г.)*

Размовы Бацькі з народам становяцца штораз больш кабарэтнымі і драматычнымі адначасова.

***

*Zachodni dziennikarze byli finansowani przez KGB. Spustoszenia w świadomości społecznej, jakie dokonywali były ogromne. Pacyfiści w Anglii, Francji, Niemczech domagali się likwidacji Pershingów, nigdy zaś rakiet SS-20.*

*(Kurier Poranny, nr 3 — 1995 r.)*

Праўдападобна сёння ў Беластоку адзінай газетай, якая выдаецца за польскія грошы, ёсць толькі наша „Ніва".

***

*Беларуссю сёньня кіруюць некалькі мафіёзных кланаў: аграрны, чарнобыльскі, прамысловы, гандлёва-знешнеэканамічны. Ад часу свайго фарміраваньня кланы стварылі і свае камерцыйныя банкі. Выкарыстоўваючы сістэму наменклатуры, мафія вяла і вядзе барацьбу між сабой за ўздзеяньне на ўрад, цэнтральны банк, мясцовую ўладу. Калі пры Кебічы маятнік мафіёзнага посьпеху паказваў на прамысловую і знешнеэканамічную мафію, то зараз ён хіснуўся ў бок аграрнай і чарнобыльскай групоўкі. Падмуркам існаваньня і крыніцай заможнасьці мафіі стала інфляцыя і крызіс, — сказаў на сесіі Вярхоўнага Савета Сяргей Антончык.*

*(Пагоня, н-р 42 — 1994 г.)*

***

*Branżowe przywileje zwane deputatami zagościły w polskiej rzeczywistości. Rodzina, której mąż jest kolejarzem, żona pracuje w telekomunikacji, a syn w Zakładzie Energetycznym, może dorobić miesięcznie 2 miliony (200 zł. po denominacji). W branży gazowniczej roczny deputat wynosi 13,5 miliona złotych. W Polsce w przemyśle gazowniczym pracuje 44 tys. osób.*

*(Kurier Poranny, nr 3 — 1995 r.)*

Супрацоўнікі нашай рэдакцыі таксама атрымалі свой паёк — па два экземпляры „Нівы" з календаром (10 тысяч злотых да дэнамінацыі).

***

*Żołnierz polski powinien modlić się w intencji zwierzchnika Sił Zbrojnych — Pana Prezydenta Rzeczypospolitej, wszystkich dowódcow, wszystkich żołnierzy i kombatantów WP, całego Kościoła, Ojca Świętego. Jak to robić skutecznie poucza wydany przez ordynariat polowy „Modlitewnik żołnierza", który trafił do plecaka każdego żołnierza i teczki oficera. Żołnierz innego wyznania nie musi brać czynnego udziału w modlitwach. Musi wykonywać tylko komendy jakie są przekazywane i nie okazywać niezadowolenia",* — пішацца ў „Маліто ўніку".

*(Gazeta Wyborcza, nr 304 — 1994—1995 r.)*

Віншуем „нашых хлопцаў", якія маюць шчасце служыць цяпер у арміі. Штодзённая імша дае ім непаўторны шанц дасягнуць цнатлівасць слаўтага рыцара Дон Кіхота.

***

*Malediwy to łańcuch wysp na Oceanie Indyjskim. Największa — Male — ma nawet kilkaset metrów drogi bitej. Prezydent Gayum dostał w prezencie BMW, które stoi w garażu, bo nim włączy trzeci bieg — kończy się republika.*

*(Polityka, nr 52 — 1994 r.)*

***

*Ці будзе Беларусь палігонам для шпіёнаў?*

*(Свабода, н-р 48 — 1994 г.)*

Лепш быць палігонам для шпіёнаў, чым для ракетных войск.

***

*На польска-беларускай граніцы чакаецца пацяпленне.*

*(Звязда, н-р 266 — 1994 г.)*

Час ад часу робіцца там нават вельмі цёпла.

***

*Рускія хлопцы ў Чачні гінуць за інтарэсы прамысловых мафіёзных структур, звязаных з урадам, не хочуць.*

*(Літаратура і мастацтва, н-р 51 — 1994 г.)*

Ці прыйдзе такі час, калі рускім хлопцам не трэба будзе змагацца за імперыю, інтарэсы, мафію ці нейкую іншую „справу", як напрыклад — сацыялізм у Афганістане?

***

*Armia nie ma pieniędzy na zatrudnienie psychologów. Gdy młody człowiek przeżywa głębokie załamanie psychiczne, wtedy radzi sobie sam: bierze broń i strzela — do siebie lub innych. Terapią mniejszych kryzysów nerwowych zajmują się kapralе. Tzw. całokształt formacji duchowej wojska oddano w ręce kapelanów. O powadze podejścia do ich misji świadczy budżet ordynariatu polowego 75 i pół miliarda zł. na rok 1995 (o 10 mld więcej niż w roku minionym). Gdy podczas promocji w jednej ze szkół oficerskich do komunii przystąpiło tylko trzech absolwentów, natychmiast usunięto tamtejszych kapelanów za rażący brak efektów pracy.*

*(Polityka, nr 1 — 1995 r.)*

І слушна! Навошта дарма грошы плаціць. Але нічога, за год — сто працэнтаў выпускнікоў тае школы прымуць камунію. Нават няверуючыя.

***

*Ленін даказаў, што дзяржавай можа кіраваць увесь народ, Сталін даказаў, што дзяржавай можа кіраваць адзін чалавек, Хрушчоў, што можа гэта быць абы-які чалавек. Брэжнеў даказаў, што дзяржавай можна зусім не кіраваць.*

*(Пагоня, н-р 43 — 1994—1995 г.)*

І кожны меў рацыю.

## З мінулага тыдня

Драматычны тэатр у Беластоку і Беластоцкае радыёвяшчанне рыхтуюць дакументальную радыёперадачу пад загадоўкам **„Народны сход Заходняй Беларусі — 28—29 кастрычніка 1939 г."** Радыё намераецца падрыхтаваць цыкл з дванаццаці перадач, якія павінны, па меры магчымасці, адлюстраваць штодзённы побыт, грамадскія і нацыянальныя адносіны, асвету і рэлігійнае жыццё таго часу. Выканаўцы гэтай задумы наладзілі кантакты з архівамі Польшчы і Беларусі, а каментары рыхтуюць гісторыкі: Томаш Стшэмбаш, Чэслаў Блёх, Адам Судол і Адам Дабраньскі. Запіс перадачы пачаўся ў Драмтэатры (дзе 56 гадоў таму адбыўся Народны сход) з палітычнага хепенінгу з удзелам вучняў і студэнтаў на глядзельнай зале ды з бурнымі апладысментамі ды воклічамі на беларускай, польскай і яўрэйскай мовах. *Пра гэтае мерапрыемства паінфармуем нашых чытачоў у адным з бліжэйшых нумароў „Нівы".*

**Леанід Кароль** — беларускі пагранічнік, які быў паранены падчас перастрэлкі на граніцы каля Свіслачанаў, вярнуўся ў Беларусь. Беларускі бок перавёз салдата ў Гродна, дзе будзе ён праходзіць далейшае лячэнне.

У Пуньску і Сэйнах праходзіла сустрэча самаўрадаў з прадстаўнікамі сеймавай Камісіі па справах нацыянальных меншасцяў, між іншым, са старшынёй **Яцкам Куранем** і яго намеснікам, сувальскім паслом **Генрыкам Богданам.** Адной з тэмаў спаткання былі пытанні мясцовых літоўцаў.

У Беластоку адкрыта першая ў паўночна-ўсходняй Польшчы прыватная гінекалагічна-радзільная клініка. У ёй можа знаходзіцца пяць пацыентак, а кошт інтымных і камфартабельных родаў складае 10 млн. старых злотых.

У Беластоцкім ваяводстве знаходзіцца звыш дзесятка **могільнікаў** — сметнікаў на адкіды па ядахімікатах. Эколагі называюць іх хімічнымі бомбамі з запавольнікамі. Ваяводская інспектура аховы асяроддзя правяла ў мінулым годзе кантроль усіх вядомых на Беласточчыне могільнікаў. Разам са звалкай будзе ліквідаваны могільнік у Анусіне. Іншыя пакуль не пагражаюць натуральнаму асяроддзю.

**Канцэрт калядак** адбыўся ў Доме культуры ў Бельску-Падляшскім. У мерапрыемстве прымалі ўдзел амаль усе хоры каталіцкіх і праваслаўных прыходаў горада, а таксама калектыў полечкай нацыянальнай песні і „Васілёчкі".

У Драгічыне адбылася ўрачыстая імша ў сувязі з інгрэсам у тамашнюю кафедру кардынала **Казіміра Свёнтка.** З'яўляецца ён першым арцыбіскупам у гісторыі Беларусі вынесеным у гэты сан у канцы мінулага года папам **Янам Паўлам II. З 1989 г.** Казімір Свёнтак быў генеральным вікарыем той часткі Пінскай дыяцэзіі, якая пасля вайны апынулася ў межах Беларусі. Урачыстасці ў Драгічыне, які калісьці належаў да Пінскай дыяцэзіі, былі аказаннем пашаны для асобы кардынала.

**Канстытуцыйны Трыбунал** прызнаў нязгодным з Канстытуцыяй бюджэтны закон на 1993 год, які знізіў са 100% на 91% падставу для валарызацыі пенсій. Калі Сейм не аспрэчыць прыгавору КТ, пенсіянеры могуць спадзявацца кампенсацыі сваіх рэнтаў і эмерытураў.

**Ваенныя мундзіры** народнай арміі былой ГДР атрымаюць у дары ад нямецкага Бундэсвера арміі Казахстана, Манголіі і Кіргізстана.

**Французская актрыса Брыжыт Бардо** накіравала прэзідэнту РП Леху Валэнсу адкрытае пісьмо, у якім пратэстуе супраць „разні" ваўкоў у Бяшчадах.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

> Адраджэнне мастацка-тэатральнага калектыву ў Паўлах — рэпартаж Ады Чачугі.

> Пра бабульку якая выхоўвае шасцёра ўнукаў — рэпартаж Міколы Ваўранюка.

> Фельетон Міхася Андрасюка на тэму патэнцыяльных патомкаў Напалеона і Дракулі сярод жыхароў Беласточчыны.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Прапанова старэйшай сястры

Дэпутаты Дзяржаўнай Думы Расеі прапанавалі правесці 17 сакавіка 1995 года сумеснае пасяджэнне беларускага і расейскага парламентаў наконт аб'яднання Расеі і Беларусі ў адну дзяржаву. Аб гэтым заявіў журналістам на прэс-канферэнцыі старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб, спаслаўшыся на неафіцыйны факс, атрыманы ім 23 снежня 1994 г. з Думы. Каменціруючы гэты факт, кіраўнік беларускага парламента заявіў, што з прэзідэнтам РБ і Вярхоўным Саветам ніхто гэтае пытанне не ўзгадняў. Акрамя таго ніякіх афіцыйных дэлегацый ад парламента ў Расею не накіроўвалася. І што самае галоўнае, — адзначаў М. Грыб, — гэта пярэчыць нашай Канстытуцыі.

### Парламенцкія выбары ў маі

Парламенцкія выбары адбудуцца 14 мая 1995 г. — такое рашэнне прыняў Вярхоўны Савет. А вось што аб выбарах думаюць лідэры розных партый. Сакратар Партыі беларускіх камуністаў Віктар Чыкін лічыць, што будуць яны цяжкія, а прыняты закон звязаў палітычныя сілы па руках і нагах. Акрамя таго закон стварае ўмовы, каб выбары не адбыліся з першага разу. Лідэр Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі Аляксандр Дабравольскі чакае, што значная частка новага парламента будзе прадстаўлена дэмакратычнымі арганізацыямі, хоць увойдзе ў яго шмат прадстаўнікоў левай арыентацыі. З выбраннем ВС трэба спадзявацца павышэння палітычнай культуры, а новы парламент можа быць стабілізатарам сітуацыі ў грамадстве, ствараючы добрыя законы. Як лічыць лідэр Партыі народнай згоды Генадзь Карпенка, з-за рэзкага пагаршэння эканамічнага становішча нельга разлічваць на высокую актыўнасць на выбарах і мяркуе, што дэмакратычны блок набярэ 50% дэпутацкіх мандатаў і найбольш у ім будзе прадстаўнікоў БНФ. А Зянон Пазьняк мяркуе, што выбары будуць цяжкія, таму што для ўлады створаны вялікія магчымасці ўздзеяння на іх, але нават у гэтай сітуацыі шанцы БНФ на выбарах вялікія.

### Крытыка дэпутацкіх прывілеяў

Група дэпутатаў Віцебскага гарадскога савета накіравала прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку ліст з просьбай не падпісваць нядаўна прыняты закон аб Вярхоўным Савеце, які прадугледжвае льготы і прывілеі дэпутатам. У лісце змяшчаецца таксама прамы зварот да дэпутатаў, дзе ў прыватнасці сказана: „Вы прымаеце закон аб Вярхоўным Савеце, які яшчэ раз красамоўна прадэманстраваў ваш цынізм і імкненне да ўласнага абагачэння за кошт народа. Вы здрадзілі сябе не толькі палітычна, але і маральна". Аўтары ліста выказалі надзею, што прэзідэнт не паддасца ўплыву магутных сіл цяперашняга ВС, якія сталі ў многім тормазам на шляху пераўтварэнняў.

### Хто тут сапраўдны патрыёт?

Савет патрыятычнага руху прыняў зварот да кіраўніцтва рэспублікі і праваахоўных органаў, у якім просіцца прыняць дзейсныя меры па роспуску Беларускага згуртавання вайскоўцаў, а таксама прыцягнуць да адказнасці яго кіраўнікоў і асоб, якія патураюць антыканстытуцыйнай дзейнасці гэтай арганізацыі. На думку аўтараў звароту, трагічныя вопыты ўзброеных канфліктаў у Грузіі, Малдове, Чачні і іншых рэспубліках сведчаць аб тым, што незаконныя нацыяналістычныя ваенізіраваныя фарміраванні непазбежна становяцца крыніцай узброеных канфліктаў.

### Пікеты за беларускую мову

Прадстаўнікі Каардынацыйнага камітэта па абароне беларускай мовы і студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта правялі сумеснае пікетаванне універсітэта з патрабаваннем пераводу гэтай ВНУ на беларускую мову навучання. Адбылося таксама пікетаванне Міністэрства адукацыі і навукі з патрабаваннем выконваць закон аб мовах у рэспубліцы.

### Брэсцкія праблемы

На жаль, у новы год перайшлі некаторыя старыя праблемы брэстаўчан. І так, вострай праблемай засталося беспрацоўе. Тут на адно вакантнае месца прэтэндуюць 22 чалавекі. Часцей за іншых працаўнікоў трапляюць пад скарачэнне работнікі прамысловых і будаўнічых прадпрыемстваў, гандлю і грамадскага харчавання. Але асабліва многа сярод незанятага насельніцтва жанчын і моладзі — каля 70 працэнтаў.

### Напад стагоддзя

Брыгада Віцебскага ўчастка інкасацыі выконвала рэйд па дастаўцы валюты ў цэнтральнае сховішча Нацыянальнага банка. Раптам адзін з суправаджальнікаў пачаў стральбу з табельнай зброі. У выніку гэтага адзін інкасатар быў забіты, а другі — паранены. Потым нападаўшаму ўдалося захапіць спецмашыну і ўцячы з двума мільёнамі долараў. Імгненна была арганізавана аперацыя па затрыманні. І калі злачынцу знайшлі і прапанавалі здацца, ён адкрыў стральбу з аўтамата, але ўбачыўшы, што акружаны аператыўнікамі, застрэліўся.

# КАР'ЕРЫ

(працяг; пачатак у 2 н-ры)

А цяпер вернемся да пытання, што было прычынай такога бурнага развіцця ў канцы XIX і на пачатку XX стагоддзяў асветы ў нас?

Па-мойму, прычын напэўна было некалькі, але найважнейшыя з іх дзве.

З аднаго боку, спрыяльная дзяржаўная палітыка апошніх Раманавых. Яны нарэшце зразумелі, што каб затармазіць паланізацыю нашага народа, якая за доўгія гады панавання тут Першай Рэчы Паспалітай і з-за неразумнай палітыкі пачатковага перыяду панавання Расіі, аставіла глыбокі паланізацыйны след, неабходна развіць тут моцнае рускае школьніцтва. І мелі, канешне, рацыю. Толькі развітае рускае школьніцтва пачало прыпыняць, а потым выціскаць адсюль паланізацыю. Яе месца пачала займаць русіфікацыя. Так, наш народ пачаў памаленьку русіфікавацца. Пры такой аднак нагодзе многія нашыя людзі пачалі атрымоўваць адукацыю, а меўшы адукацыю, пачалі займаць розныя пасады ў разбудаваным дзяржаўным апараце. Інакш кажучы, пачалі рабіць кар'еры, бо расіяне, пераканаўшыся, што беларусы гэта такі народ, які ўмее служыць і добра, і верна, калі іх шануюць, пачалі давяраць ім розныя адказныя пасады, павышаць па службе. Многіх нашых хлопцаў-веліканаў пачалі браць у лейб-гвардыю — элітарнае царскае войска. Некаторых нашых лейб-гвардзістаў я таксама яшчэ помню. Яны да самай глыбокай старасці трымаліся стройна і пры кожнай нагодзе любілі пахваліцца, што служылі ў лейб-гвардыі...

З другога боку, для развіцця школьніцтва ў нашай мясцовасці пачалі моцна прычыняцца і нашы землякі-суродзічы, якія, раней атрымаўшы адукацыю, занялі ўжо высокія дзяржаўныя пасады. У асветных уладах, напрыклад. Спрацаваў тут іх арганізацыйны талент і лакальны патрыятызм.

Найбольш заслужылася ў гэтай галіне — па расказах — сям'я Тымінскіх. Тымінскія паходзілі з нашай Бельшчыны. Бацька Тымінскі быў дыяканам у Райску. Адзін яго сын быў благачынным у Бельску, а сын благачыннага — пісарам у майго прадзядзькі Парфенція, пра незвычайную кар'еру якога я далей раскажу.

Другі сын дыякана Тымінскага быў Гродзенскім губернскім школьным інспектарам. Гэта ён быў галоўнай спружынай такога хуткага развіцця асветы ў нас. А магчымасці ў такога інспектара былі немалыя, толькі трэба было хацець і ўмець. Тымінскі хацеў і ўмеў, таму так было многа зроблена ў нас.

Мая вёска і невялікая, і ў ненайлепшым пункце ляжыць, але дзякуючы высокай пратэкцыі майго прадзядзькі і блізкага знаёмства яго з сям'ёй Тымінскіх, таксама мела адыграць немалую асветную ролю. На вялікі жаль гэты плённы перыяд груба перарвала, першая сусветная вайна, якую называлі Нікалаеўскай у нас...

Як пры Першай і Другой Рэчы Паспалітай, так і пры царызме пра беларускасць для беларусаў і гутаркі не было.

А як выглядала наша прыпушчанская мясцовасць у эканамічных, гаспадарчых адносінах?

Таксама параўнальна някепска. Як у адносінах да іншых тэрыторый Гродзеншчыны, так, тым больш, да іншых рэгіёнаў Беларусі.

Пад канец XIX і на пачатку XX ст. і на гаспадарчай ніве быў відочны ў нас прагрэс або пэўная кар'ера.

Вось, што піша на гэтую тэму царскі прафесар Георгій Карцоў у кнізе „Беловежская пуща", выдадзенай у 1903 г.:

„Беловежсский крестьянин не может называться бедным. Уже с давних пор он пользуется более, чем другие гродненские крестьяне, выгодами от родного леса и привык смотреть на некоторые незаконные статьи дохода, как на своё право. С тех пор, как его ограничили в хищническом пользовании лесными богатствами Пущи, у него появились другие статьи дохода, которые улучшили его материальное положение. С постройкой дворца, с возведением вокруг него целого городка, с проведением новых дорог, а в особенности с сооружением железной дороги внутри Пущи, — беловежский крестьянин получил такой большой заработок, что лишение его незаконно присвоенных им статей дохода, вследствие ограничения пастьбы в Удельных лесах, запрещение шатания по Пуще для собирания грибов и ягод и более энергичного преследования браконьерства, — не должно казаться ему тягостным. При этом надо иметь в виду, что некоторые отрасли хозяйства: ремонт дорог, заготовка кормов зверю и доставка к складочным сараям дают местным крестьянам постоянный заработок. Несмотря на незначительные наделы и на малый процент чернозёма, доход крестьян от полевого хозяйства можно назвать достаточным... Наиболее зажиточные имеют пару лошадей мелкой породы или волов, две-три коровы и несколько голов свиней...

Пути сообщения в Пуще можно назвать образцовыми. С запада в Пущу врезывается беловежская железнодорожная ветка, соединяющая центр Пущи, село Беловежа и Царскую усадьбу со станцией Бельск. Ветка ширококолейная и, проходя мимо деревни Гайновки, лежащей у границы Пущи, вглубляется в лес и подходит к красивой платформе императорского дворца. Дорогу начали строить в 1894 г.; в августе того же года её довели до Гайновки; затем, после перерыва до мая 1897 года, приступили к работам по продолжению ветки к Беловеже и уже в августе открыли движение.

Если не считать военно-грузинской дороги, то вряд ли в России найдётся второе шоссе, могущее соперничать в техническом отношении с беловежским...".

Вось так бачылі нашу мясцовасць, нашага мужыка і яго жыццё-быццё правячыя царскай Расіяй. І хоць было гэтае жыццё напэўна нялёгкім, параўнаць з сённяшнім проста немагчыма, але ў іншых мясцінах Беларусі, і не толькі яе — як правільна сцвярджае Г. Карцоў — жылося яшчэ горш.

Нашы бежанцы, едучы ў Расію і вяртаючыся з яе, праехалі ўсю Беларусь і дакладна бачылі як там жыў народ. Яны таксама сцвярджаюць, што жылі там бядней ад нашых. У многіх мясцінах Беларусі, напрыклад, адзіным абуткам на ўсе сезоны і святы, як для мужчын, так і для жанчын, былі толькі лапці і пасталы. Нямала было і такіх мясцін, дзе сяляне жылі яшчэ ў курных хатах, чаго ў нас ужо не здаралася.

Бедна жылі на Міншчыне, яшчэ бядней на Слонімшчыне. Разам з нашымі бежанцамі трапілі на Дон і слонімцы. І моцна здзіўляліся мясцовыя жыхары, што нібыта ўсе яны бежанцы, а якая розніца між імі: і ў звычаях, і ў паводзінах, і ў заможнасці. Некалькі сланімчукоў вучылася з маім татам у адным класе. Што якісьці час настаўніца-казачка дарыла ім то рубашкі, то штонікі, а майму тату — ніколі. У таты была вялікая сям'я і па дарозе на Дон дзесьці ў Маскве памерла яго маці. Відаць, не выглядаў на вельмі беднага...

Што я магу сказаць на словы ацэнкі жыцця нашых людзей і стану нашай мясцовасці паважанага прафесара Г. Карцова?

Вельмі радуюся за свой народ, сваю мясцовасць і згаджаюся з шаноўным прафесарам, але не да канца. Па маёй віне, зрэшты.

Згаджаюся, што ў гаспадарчых адносінах наша мясцовасць карысней выглядала ад іншых мясцовасцей Гродзеншчыны і Беларусі.

Згаджаюся, што паляпшэнне жыцця нашых продкаў звязана ў многім з будовай і ўтрыманнем Белавежскага царскага палаца, з правядзеннем у нас новых бітых дарог і ў асноўным чыгункі.

Як жа ідыятычна смешна мусім мы цяпер выглядаць, зліквідаваўшы гэтую гатовую і абжытую ўжо чыгуначную дарогу, калі мы ў той далёкі царскі час бачылі такую вялікую патрэбу гэтай дарогі, што нягледзячы ні на велізарныя кошты, ні на тэхнічныя цяжкасці балотніста-лясной мясцовасці, толькі пры дапамозе ручной пілы, сякеры, лапаты і тачкі, будавалі і збудавалі яе. (Чыгунка Бельск — Гайнаўка — Белавежа была зліквідавана ў 1994 годзе).

Згаджаюся і радуюся, што наша шасейная дарога Бельск — Гайнаўка — Белавежа ў тэхнічных адносінах была адной з найлепшых такога тыпу дарог на ўсю царскую імперыю.

Згаджаюся і радуюся, што нашы дарогі і ўся Белавежская пушча (як фауна так і флора яе) утрыманы былі ў „образцовом порядке".

Аб гэтым „образцовом" на дарогах і ў пушчы парадку я не раз чуў і ад нашых старэйшых людзей...

У чым жа я не згаджаюся з прафесрам Карцовым?

Нязгода мая з прафесарам невялікая і даволі празаічная. Да таго ж на тое выглядае, што мае тут рацыю прафесар, а не я. Датычыць яна па сутнасці толькі дзвюх спраў — святога царскага права прыватнай уласнасці на Белавежскую пушчу і „статей пользования" ёю. Прафесару ўсё тут вельмі проста, ясна, справядліва, а мне — не вельмі.

Прафесар называе Белавежскую пушчу „родным лесом" тутэйшых жыхароў, а „статьи пользования" родным іх лесам чамусьці лічыць незаконнымі гэтым ужо жыхарам, бо законнай уласнасцю — паводле яго — з'яўляецца пушча і ўсё ў пушчы нейкіх там Аляксашкаў і Мікалашкаў, пражываючых недзе ў Пецярбургу, за тысячу вёрст ад пушчы. Толькі і выключна яны — паводле прафесара — мелі маральнае і юрыдычнае права цвёрдым гаспадарскім крокам хадзіць па пушчы і карыстацца ёю. А тутэйшых сялян, нават адно толькі прабыванне „в родном лесу" лічыць незаконным „шатанием". А ўжо не дай Божа падняць ім родную ягадку, грыбочак, арэшак ці запаляваць на родную звярынку, бо такое „вопиющее беззаконие" па праву лічылася акраданнем цара-бацюшкі і, згодна прафесарскаму пачуццю справядлівасці, павінна было энергічна праследавацца законам.

Згаджаюся, канешне, і я, што была гэта крыўда, нават „вопиющая", бо зладзейства адбывалася ў белы дзень, але штосьці назойліва падшэптвае мне, што не цара-бацюшку абкрадалі нашы продкі, а цар-бацюшка бессаромна абкрадаў усіх.

Прашу, канешне, прабачэння за маю нетактоўную наіўнасць, брак павагі каранаваным галовам і напэўна ж за беспадстаўную прыдзірку да іх.

Прычына маіх такіх адсталых поглядаў ляжыць, думаю, у тым, што так коратка жыву я ў капіталізме і далёка не ўсё яшчэ ўспеў прысвоіць у ім. І напэўна ж мае камуністычнае выхаванне са сваімі дурацкімі ідэямі грамадскай роўнасці, справядлівасці, якімі так шчодра фаршыравалі ўсіх нас, так мяне скалечыла, што часта (аж сорамна прызнацца) мне надалей больш да спадобы такія ідэі і законы Дома Ульянавых ад напэўна ж справядлівейшых, бо капіталістычных, ідэй і законаў Дома Раманавых, як бачыце...

Відаць тое ж самае перашкаджае мне прызнаць справядлівым і тое, што гэтая законная ўласнасць на пушчу і „законные статьи пользования" ёю перайшлі з Пецярбурга ў Варшаву, хаця яна і бліжэй ляжыць ад пушчы чымсьці Пецярбург...

Ну ж і ерасніка зрабілі камуністы з мяне.

*(працяг будзе)*

**Васіль Сакоўскі**

# ЯК МУХІ

Зубны боль прымусіў мяне наведаць дантыста. У пачакальні хворых было шмат. Каму зуб вырваць, высылалі яго дадому, бо два тыдні кабінет быў зачынены з-за хваробы стаматолага і не было... стэрыльнай марлі. Засталіся з пацыентаў толькі тыя, каму зубы трэба было лячыць ці прымерваць пратэз.

Мужчын было няшмат. Жанчыны разгаварыліся. Пра што гаворыцца ў чэргах найбольш? Пра хваробы і аварыі. Апошняй катастрофай было здарэнне, калі ў разбітай машыне адна жанчына загінула, а моцна параніла чатырохгадовага хлопчыка, двух мужчын і яшчэ адну жанчыну.

— Вось, бачыце, як склалася, — азвалася чорнавалосая цётка са спухлай шчакой. — Свякруха з Т. прыехала да дачкі ў З. і давай прасіць зяця, каб завёз іх у Беласток. Хацела атрымаць ранейшую пенсію.

— Во і атрымала, — уздыхнула наступная пацыентка. — Такі, відаць, быў яе лёс.

— Старэйшыя ўнукі былі ў школе, а наймяншага ўзялі з сабою. Беднае дзіцятка... Якраз з Т. ехаў трактар з прычэпай, а на ёй — карова. „Фіат" паслізгнуўся на шашы, закінула ім. Трактарыст згледзеў, што справа дрэнь, і нацэліўся ў роў, дзе затрымаўся. Аўтамабіль усё ж з разгону ўрэзаўся ў трактар ажно кола выбіў.

— Ах, Божа міласэрны! — заматала галавою пажылая жанчына. — Ад свайго не ўцячэш. Пісана было, вось і трапіў пад трактар!..

— Свякруха забілася насмерць. Жонка была прытомная, пакуль не расцялі аўтамабіля і яе не кранулі. Усё пыталася, ці мама жывая. Як сталі яе выцягаць, толькі заенчыла. Бяда з ёю, невядома, ці будзе жыць. Лопнуў ёй мачавы пузыр, пабіты таз. Ляжыць ужо каторы дзень у шпіталі ў Б. Шафёр з паламанай нагой усё ў шоку. Раз памятае, як было, а раз траціць памяць і слова не скажа! А на трактары сядзела двое, бацька і сын. Стары сядзеў за рулём. Хлопца таксама пакалечыла — паранены аскепкамі шкла, паламаныя рэбры.

— Гэта ўсё праз залішнюю хуткасць, — заўважыў мужчына. — Усе пруцца, хутчэй ды хутчэй! Вось табе і „хутчэй"! Людзі мруць як мухі, і вайны не трэба. Даць ім толькі таннай гарэлкі і машыны. На шашу страх выехаць.

А колькі ж на чалавечую смерць трэба? Мацней стукнуў, і ўсё. Так яно ёсць. Ходзіш, робіш, упадзеш, і ўсё. Але не раз чалавек лезе смерці сам пад касу. П'юць такія свінствы і ездзяць як шалёныя. А тут — толькі слізкая шаша. І сям'я не існуе. Тымі дзецьмі, што мелі шчасце не паехаць у горад, дзядзька апякуецца. Кажуць, яго бацькі на дапамогу прыляцелі з Амерыкі раз-два.

— Але калісь пехатою ўсюды хадзілі. А цяпер то бяда „ходзіць па людзях".

**Аўрора**

# СЦЯРВЯТНІКІ, ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

Беларускія і польскія гісторыкі, якія даследуюць міжваенны перыяд II Рэчы Паспалітай, найчасцей як крыніцу праўды выкарыстоўваюць творы розныхураднікаў, выказванні вядомых палітыкаў, літаратараў, і ўвогуле аўтарытэтаў тае эпохі. Зрэдку прытым звяртаецца ўвага на тое, што тыя людзі кожнае слова напісалі ці сказалі, каб стварыць пажаданы з іх пункту гледжання вобраз рэчаіснасці. І найчасцей ёсць гэта рэчаіснасць вельмі ўпрыгожаная, штучная, або толькі ілюзія праўды і зрэдку мягу прадстаўляе тое, што сапраўды думалі „вялікія" персоны такой ці іншай міфагісторы.

Я хацеў бы звярнуць увагу на тых аўтараў і іх творы, на якія па розных прычынах не спасылаюцца ні польскія, ні беларускія даследчыкі. Выпадкова знайшоў я ў антыкварыяце кніжку, якой загаловак „Kresy Polskie w niebezpieczeństwie" прыцягнуў маю ўвагу. Была яна выдадзена ў Вільні ў 1930 г., а яе аўтарам быў Ksiądz kanonik J. Borodzicz. Побач стаяла не менш інтрыгуючая літаратура ў выглядзе кніжкі аўтарства M. Murdelio пад загалоўкам „Sęp nam wyjada nie serca lecz mózgi, Jak tworzyliśmy hurtki i Do obrońców sprawy białoruskiej". Выдадзена яна была таксама ў Вільні ў 1927 г., калі жывая была справа Грамады.

Прачытаўшы гэтыя кніжкі магу сказаць, што з'яўляюцца яны знакамітымі крыніцамі для даследавання польска-беларускіх адносін у II Рэчы Паспалітай у дваццатых гадах нашага стагоддзя. Іх галоўнай прыкметай ёсць тое, што напісаныя яны без ніякай палітычнай хітрасці і адлюстроўваюць сапраўдны спосаб мышлення „крэсавых палякаў". Хаця рэчаіснасць і вобраз Заходняй Беларусі прадстаўленыя аўтарамі не мелі з сабой нічога супольнага, але кніжкі гавораць пра вартасці, паводле якіх жылі іх стваральнікі, адлюстроўваюць атмасферу на г.зв. „крэсах", паказваюць, які мур дзяліў палякаў і беларусаў. Гэтыя менавіта кніжкі даюць адказ на пытанне: чаму так, а не інакш беларусы і Беларусь прадстаўляюцца ў польскай гістарыяграфіі, публіцыстыцы, творах літаратуры і іншых выяўленнях інтэлектуальнай творчасці? Цытуючы гэтых аўтараў і ўспамінаючы нядаўнія дыскусіі ў беластоцкай прэсе пра польска-беларускія адносіны ці славутае інтэрв'ю з беластоцкімі іерархамі ў „Gościu Niedzielnym" (н-р 35 ад 1993 г.) можна толькі пераканацца, якую трываласць мае міфалогія пра суседнія народы.

„Spędziłem nad Dźwiną dwa i pół miesiąca, — піша ксёндз-канонік Бародзіч. — Miałem okazję zetknąć się i obcować z ludem na Kresach. Jest tam 7 cerkwi, zaś ani jednego kościoła. Zwiedzałem cały ten obszar, badając stan moralny i polityczny. Dziwnym mi się wydało, że za czasów Polski nikt tu nie zajął się nawracaniem prawosławnych. Popi i niektórzy z prawosławnych, zamieszkujących pogranicze z Bolszewią, mieli tendencje bolszewickie, a niektórzy jawnie byli wrogami Kościoła i Polski. Są to przeważnie ignoranci pod każdym względem, zaprzeczali nawet faktom historycznym... Oto fakty: w jednej tylko parafii prawosławnej leonpolskiej było 16 jaczejek. Utworzona przez bolszewię partia „Hromadowców" zdążyła zorganizować na Wileńszczyźnie około tysiąca hurtków (jaczejki). Popi na prawo i lewo sypali dolarami, popierali te gniazda wywrotowe... Nie mało byłem zdziwiony, że księża okoliczni nie reagowali na bezprawie. Niektórzy byli zwolennikami unii wymyślonej przez Niemców, wrogów Polski. Zwolennikiem unii okazał się J.E. ks. biskup Matulewicz, który w tym celu przetranslokował nad Dźwinę księży znanych z agitacji rusyfikatorskiej i szowinistów (каталіцкіх святароў — свядомых беларусаў канонік прынцыпова называе „русіфікатарамі", „бальшавіцкімі агентамі" і „шавіністамі" — Я.М.) dążących do wyżenienia (ад выганяць— Я.М.) polskości z naszych Kresów... Wszyscy oni skoncentrowali swą wywrotową akcję w klasztorze O.O. Marjanów w Drui pod egidą superjora Andreja Cikoty. Ci księża nie wahali się współpracować ze sławnymi przywódcami „Hromadowców" posłami: Miotłą, Taraszkiewiczem i Rak-Michajłowskim. Założyli oni redakcję „Biełaruskaja Krynica„ i inne. Przetłumaczyli i wydali wiele książek dla ludu, szczególnie Bobicz, Zieniewicz, Stankiewicz i założyli przy klasztorze Marjanów w Drui gimnazjum polskie imienia „Króla Stefana Batorego" i cała ta „spółka" zaczęła lud polski nawracać na „białorusów" (c. 27—28).

Oto dziesięć lat dopiero minęło jak część cerkwi prawosławnej pozostaje pod opieką Białego Orła. A jednak popi, ze względu na swą kastowość i przyzwyczajenia, woleli poddać się przez nich utworzonemu synodowi, niż pójść za przykładem katolickiej Polski i jej duchowieństwa, połączyć się z Rzymem (c. 30).

(...) Jestem Polakiem, po polsku czuję i myślę, wyrosłem na Litwie, narodowość litewską i wszystkie inne kocham, ale jestem i to na pierwszym miejscu kapłanem katolickim i dlatego we mnie nie ma nienawiści do nikogo. Takimi jak ja jesteśmy wszyscy kapłani. Ale tu na Kresach są księża-szowiniści, którzy postanowili wytępić wszystko co polskie, a nawet zaprowadzić unię dla Białopolaków. W drujskim kościele O.O. Marjanie zaczęli nawet śpiewać po rosyjsku „Światyj Bożе" i inne pieśni... Tu nad Dźwiną agenci białoruscy zasiewają wywrotową prasę, jak „Biełaruskaja Krynica" (часопіс беларусаў-католікаў — Я.М.), „Sialanskaja Niwa" i inne. Klasztor Marjanów w jednym z artykułów w „Białoruskiej Krynicy" Nr 36 pisał: „Białorusy powinni pomnić, szto ich daroha razem z Litoucami".

Jest garstka warchołów i wśród ziemiaństwa. Jeden z nich rozwiódł się z żoną, biegał za Esterkami i zadawał się z Żydami, w końcu stał się adoratorem wiejskiej dziewczyny prawosławnej i przyłączył się do owieczek popa" (c. 35).

Апісання непасрэдных сустрэчаў ксяндза-каноніка з праваслаўнымі святарамі нават не асмельваюся прадстаўляць, бо гратэск так моцна там перамешаны з нейкім псіхапатычным садызмам, што ўсё разам выглядае проста неверагодна.

З таго, што піcаў пра сябе другі згаданы аўтар M. Murdelio, можна здагадацца, што быў ён памешчыкам. Пару дзесяткаў старонак напісаў, каб даказаць, што чагосьці такога як Беларусь і беларусы ніколі не было, няма і быць не павінна. Маем дзеля гэтага абшырны даклад па гісторыі ўсходняй Еўропы, пачынаючы аж з IV стагоддзя.

„Kraina, która leży na Wschód od Podlasia, na Południe od Litwy Kowieńskiej i Łotwy, na północ od Wołynia, przez wielu ludzi mało uświadomionych nazywana jest Białorusią, lud zaś tam zamieszkały — Białorusinami. Większość tych ludzi nie zna dobrze historji (c. 4).

Ziemia ta w ciągu tysiąca lat przeżywa cztery okresy. W pierwszym okresie, trwającym około 300 lat, wchodzi w skład zdobycznego i dynastycznego Normandzkiego państwa Ruryka. Drugi okres trwa około dwustu lat; jest to panowanie dynastycznej Litwy. Trzeci, czterystoletni przynależności do Polski, a czwarty 120-letni jest pod panowaniem Rosji carskiej.

Zbadajmy teraz, który z tych czterech okresów wywarł największy wpływ na charakter i kulturę tej krainy. Pierwszy okres, to panowanie Rurykowiczów ginie w pomroce wieków i stanowczo przeszedł bez żadnego widocznego śladu. Litwini, jakkolwiek zdobywcy, lecz niżsi kulturą od słowian, nie tylko żadnego wpływu nie wywarli, ale przeciwnie sami pod wpływ słowian podpadli. Z tego względu pretensje Litwinów do Wileńszczyzny są zupełnie taksamo nieuzasadnione jak pretensje Macedonii do Persji i Egiptu.

Zgoła co innego widzimy w trzecim najdłuższym okresie przynależności tej krainy do Polski. Pierwszy zagon tu polska ręka zaorała, pierwszy chleb polska ręka upiekła. Jak ta kraina długa i szeroka, tak w każdym zakątku znajdziemy niezatarte ślady polskiej kultury. Wszystkie stare mury w grodach są przez nas wybudowane. Wszystkie wspaniałe świątynie, klasztory, uczelnie są polskie (c. 7—8).

Z całą stawowczością twierdzę, że wykluczywszy międzynarodówkę żydowską, co najmniej 90% ludności narodowo uświadomionej stanowili Polacy, a 10% Rosjanie, reszta zaś to ciemna masa chłopska beznarodowościowa, obojętna na wszystko co bezpośrednio nie dotyczy bytu materialnego — tak zwana tutejsza (c.9).

Urok polskiej kultury jest tak wielki, że nawet miejscowy chłop, o ile ucywilizuje się, „opolaczywajetsia". Jedyne co w ciągu 120-toletniego panowania tu zdołał osiągnąć rząd rosyjski, to wyrwać z masy chłopskiej bardzo nieznaczną cząstkę wychowańców Mołodeczeńskiego i Boruńskiego nauczycielskich seminarjów, Wileńskiego „uczitielskiego instituta". Najważniejszą częścią programu w tych uczelniach było wzbudzić nienawiść i pogardę do wszystkiego co polskie. Otóż z tej szanownej grupy pochodzą panowie Taraszkiewiczowie, Raki-Michajłowscy, Szapiele i Miotły, dzisiejsi przedstawiciele tak zwanego ruchu białoruskiego (c.10).

Są nawet pośród nas ludzie, którzy próbują twierdzić, że nie tylko są na świecie Białorusini, ale jest nawet i literatura. Otóż muszę temu kategorycznie zaprzeczyć, bo jak nie ma Białorusinów, tak i języka białoruskiego niema, a za to jest aż kilka gwar, którémi mówi lud tak zwany białoruski (c. 12).

Даказаўшы, што няма беларусаў, пан Мурдэльё ставіць польскім дэмакратам кардынальнае пытанне ці павінны быць беларускія партыі, ці павінна існаваць Грамада (120 тысяч членаў). „Навуковымі" метадамі дае адказ — „не!".

**Яўген Мірановіч**

---

1. X. Kan. J. Borodzicz, Kresy Polskie są w niebezpieczeństwie, Wilno 1930.
2. M. Murdelio, Sęp nam wyjada nie serca lecz mózgi, Jak tworzyliśmy hurtki i Do obrońców sprawy białoruskiej, Wilno 1927.



# Расказ дзеда Хмяля з Вітава

*Тры гады таму заглянулі мы з Яўгенам Вапам у Вітава да Уладзіміра і Марыі Хмялёў. Дзед якраз малаціў збожжа, але ахвотна павёў нас дахаты і расказаў пра мінуўшчыну. Абое гаспадары выглядалі яшчэ зусім бадзёрымі. На жаль, увесну памёр дзед, а праз два дні баба, быццам бы жыць без яго не хацела.*

*Вось, што мы паспелі пачуць у Вітаве 4 студзеня 1992 года ад Уладзіміра Хмеля, сына Харытона, народжанага 11 лістапада 1911 года:*

**Пра бежанства**

Усе вітаўцы былі ў бежанстве і ўсім сялом вярнуліся. Калі расейцы адступалі ў 1915 годзе, палохалі людзей, што немцы бабам цыцкі абрэзваюць, дык мы ўсё кінулі, ледзь паспелі закапаць. Думалі, праз месяц—два вернемся, а вярнуліся праз сем гадоў.

Ехалі мы праз Жлобін і Менск у Сібір. Як ехалі ў бежанства, дык набралі сухароў, а пасля ўжо рускі народ дарыў нам столькі, што хоць адбаўляй.

Папалі мы ў Бугуруслан. Спачатку жылі па людзях, шмат хто ў свіронках. Пасля рэвалюцыі размясцілі нас па памешчыцкіх дамах.

Так добра нам жылося, што і не думалі ехаць назад дахаты. Стагі там стаялі пяць гадоў, дык як выпалі два гады засухі, запасаў хватала. Там гаспадар не ведаў нават, колькі мае авечак. А рыбы колькі было! Называлася яна вобла.

У Бугуруслане бацька столярам рабіў. Як паставіў дом мардвіну, узяў 150 пудоў пшаніцы і 150 пудоў жыта. Давід (невядомага прозвішча вітавец — А. Л.) дык за тыдзень працы дзве фуры збожжа дастаў. За год працы — тры гады можна было не рабіць. Як былі ў Расеі, дык дзеўкі былі вучоныя, хто сем класаў скончыў, а хто і гімназію.

Усе вітаўцы трымаліся ў купе. У Расеі не ведалі калядавання. Бацька зрабіў гвязду і ўсе вітаўцы пайшлі калядаваць. Кацапы (так у арыгінале — А. Л.) не ведалі, як прымаць калядоўшчыкаў, але цягнулі нас да сябе. Давід паставіў усіх кацапаў на калені, з хлебам ды соллю, а нашы спявалі. Давід браў хлеб і гаварыў: „А больш дык што дасце?". Дый давалі столькі грошай, што мы за два дні калядавання ўвесь год жылі.

Ніколі б на бацькаўшчыну не вярнуліся, каб не тая рэвалюцыя. Пры Леніне выпусцілі турэмшчыкаў і тыя пачалі народ біць і глуміць. Настаў голад. Спачатку елі галубоў, пасля варон, пасля катоў, а пасля давай уцякаць дадому.

Вярнуліся мы ў 1922 годзе. Тут ўсё бур'яном зарасло, бо Вітава згарэла.

*Далей будзе*

**Алег Латышонак**

---

**Беларускае аб'яднанне студэнтаў запрашае сяброў на з'езд, які адбудзецца 21 студзеня 1995 г. а гадз. 10.30 у зале Сената Рэктарата Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, вул. М. Кюры-Складоўскай, 14, (II паверх).**

# Інтэрв'ю з мужам

**З прафесарам ВАСІЛЁМ ЧАЧУГАМ, загадчыкам Кафедры біялогіі Медыцынскай акадэміі ў Беластоку, гутарыць АДА ЧАЧУГА.**

*— Ад 1981 года ты не даеш нікому інтэрв'ю. Можа, зробіш выключэнне для „Нівы"?*

— Ну, хіба што для „Нівы"... У восемдзесят першым пісалі пад кальку. Журналісты ўсё ведалі, дастаткова было толькі падставіць прозвішча і месца акцыі.

*— А ў якую „акцыю" ўключылі цябе?*

— Ну, ты ж сама ведаеш. Нехта прысланы з Варшавы (журналіст?) выпрашыў „ачысціць" Лігу аховы прыроды ў Беластоку, старшынёй якой я быў на працягу 14 гадоў. Праца — наскрозь грамадская, залатоўкі з яе ніводнай, а здароўя з'ела нямала. Трэба было жэрціся з дэцыдэнтамі, урбаністамі, меліяратарамі. І колькі разоў давялося за гэта пачуць ад іх, што „Чачуга хацеў бы хадзіць у лапцях, як яго бацька".

Я, вядома, пасля таго артыкула адразу падаўся ў адстаўку — нават з нейкай палёгкай, але ў душы астаўся горкі асадак. Гаварылі-гаварылі і дагаварыліся да таго нават, што быццам не маю адпаведных біялагічных кваліфікацый.

*— Але ж у лекцыях для студэнтаў ты ўводзіў апошнія дасягненні сусветнай навукі, якія ў праграму ўключаліся прынамсі на дзесяць гадоў пазней! Можа, ім не пасавала тое, што адукацыю ты здабыў у Беларускім дзяржаўным універсітэце? Але ж, калі яны — фахоўцы, дык павінны былі ведаць, што школа прафесара Вінберга вядомая ва ўсім свеце!*

— Дык я ж і кажу, якія гэта былі „фахоўцы".

*— Аднак жа прыкрыя ўвагі, як па камандзе, спыніліся, калі ў канцы таго ж восемдзесят першага цябе выбралі сапраўдным членам Нью-йоркскай Акадэміі навук. За што гэта яны цябе туды?*

— А я ведаю?..

*— Умомант журналісты з розных газет, радыё, тэлебачання нават, пачалі дабівацца да цябе з просьбай даць інтэр'ю, а ты не зрабіў гэтага ні разу.*

— Я ўжо людзям гэтай прафесіі не верыў.

*— А нядаўна вось гэты рэйтынг навукоўцаў, праведзены ў Амерыцы (у Філадэльфіі) па заказу Медыцынскай акадэміі. Калі некаторыя гаварылі, што ў мінулую эпоху статус навукоўца часта залежаў ад апініі асяроддзя, дык сёння былі прыменены аб'ектыўныя крытэрыі, прынятыя ў свеце. І што высветлілася? — Што сярод вучоных Медыцынскай акадэміі ў г.г. 1988—1992 найчасцей цытаваліся ў сусветнай навуковай літаратуры працы Васіля Чачугі (183 разы, амаль удвая больш за асобу, якая апынулася ў рэйтынгу на другім месцы). І зноў пачалі ў твае дзверы стукаць розныя журналісты, трактуючы цябе як чарговую цікавінку, а ты — маўчок!*

— Хутчэй — як дзіковінку, бо для нікога ж не сакрэт, што толькі маньяк займаецца сёння навукай.



*— Амаль няўражлівы на сучаснае мастацтва, прызнаючы толькі літаратуру факту ды гістарычныя кніжкі, ты да немагчымасці ўражлівы на прыроду!..*

— Бо толькі ў прыродзе ёсць праўда.

*— Ну, чаму ж, у „Кур'еры паранным" пісалі, што найлепшыя навукоўцы атрымаюць грошы на доследы?!*

— Так, атрымалі! Прасіў на тры тэмы, грошы прызналі — на дзве, ды і то толькі на прэпараты, транспарт, камандзіроўкі людзям. На ганарар не разлічвай: нічога не застанецца.

*— Ведаеш, гэта зусім так, як у нас у рэдакцыі: кніжкі выдаем, той-сёй мае нейкую карысць, ды толькі не аўтар. Яму павінна хапіць толькі славы, сатысфакцыі...*

— Гэта сатысфакцыя і дазваляе жыць.

*— Калісь ты расказваў, як пачынаў сваю адукацыю, хаваючыся ад бацькі, з кніжкай у руках, у баразне між галоўкамі капусты. Там цябе бацька ніколі не знайшоў, але адлупцаваў, пэўна, няраз за тое, што вечарэла, а гусей не было каму загнаць...*

— Якіх гусей?! Мы мелі адну гуску.

*— Ну, не мог жа ён, малазямельны селянін, уявіць сабе тады, што яго сын будзе пісаць супольныя працы з вучонымі Гарвардскага універсітэта (ЗША), Упсалы (Швецыя), Токіо (Японія), Санкт-Пецярбурга (Расія), Тэль-Авіва (Ізраіль), Аргенціны, Францыі і г.д. І як табе гэта ўдаецца — яны далёка — а ты тут?!*

Ён, — скажам, збірае матэрыял з тундры, Бразіліі ці Японіі, прысылае мне, а я ўжо даследую і пішу працу. У навуцы неабавязкова ездзіць — усюды ж жывуць людзі. Зрэшты, ты ж сама ведаеш, што кожны наш адпачынак быў таксама своеасаблівай навуковай экспедыцыяй. Памятаеш, як мы збіралі матэрыял з дна мораў і азёр, як наша Эва нырала пад ваду, выцягваючы мне розныя пробы.

*— Дык жа і сёння ты не абыдзеш ніводнага цікавага лісточка, ні травінкі. Усё, што жыве ў вадзе, бадай, ужо даследаваў...*

— О-о-о! Хацеў бы зрабіць яшчэ шмат. Планаў маю мноства. Абы паспець.

*— І так ты зрабіў нямала. Каля пяцісот прац у замежных навуковых часопісах, кніжка ў Токіо па выкарыстанні хларэлы ў космасе, два раздзелы ў нядаўна выдадзеным на Фларыдзе падручніку па лішайніках для студэнтаў амерыканскіх універсітэтаў, не гаворачы пра працы і рэцэнзіі, надрукаваныя ў польскіх навуковых часопісах.*

— Ну, што ж. Я проста выкарыстаў шанцы, якія дала народная ўлада хлопцу з незаможнай беларускай сям'і ў вёсцы Плюцічы. Да вайны штосьці падобнае не прыйшло б у галаву ніводнаму майму земляку.

*— І таму не любіш даваенных польскіх мелодый?*

— Яны мне асацыіруюцца з абразком, як пан са Страблі едзе праз нашу вёску на адкрытым аўтамабілі. Стаіць грамафон, з якога ліюцца тыя песні, а панскі прыслужнік сцябае пугай нас, хлапчукоў, за тое, што чапляемся за машыну...

*— Ты на працягу амаль сарака гадоў фірмуеш польскую навуку. Ці добра адчуваеш сябе ў ёй?*

— А як можа адчуваць сябе „аўтахтон"?! Бывала па-рознаму. У восемдзесят дзевятым, пасля выбараў, на кафедры павыбівалі вокны...

*— Ну, і была нейкая рэакцыя на гэта?*

— Нават калі майго дзеда пан забіў з дубальтоўкі за кошык бульбы, сабранай на полі пасля выкопак, суд апраўдаў яго. Быццам дзейнічаў „w obronie własnej". Старыя людзі кажуць, што ад дзевяностага года многае ў нас пачало напамінаць даваенны перыяд.

*— Ты ж усё жыццё дбаў пра свой рэгіён, пра родную зямельку. Быў стваральнікам навуковага часопіса „Беласточчына", пры тваім непасрэдным удзеле былі выдадзены тры першыя кніжкі айца Рыгора Сасны пра праваслаўе. Чаму ж ты некалькі гадоў таму адмовіўся ад старшынствавання Беластоцкаму навуковаму таварыству?*

— Менавіта таму. Можна сказаць, што я быў прымушаны гэта зрабіць. Перамаглі іншыя опцыі. Гістарычная праўда, пра якую так многа гаварылася, перастала мець прыярытэтнае значэнне.

*— І як жа ты бачыш беларускія справы сёння?*

— З вялікай прыкрасцю мушу сцвердзіць, што ў пэўным моманце мне нават здалося, быццам беларусы яшчэ не дараслі да таго, каб звацца нацыяй. Не ўмеем быць вышэй партыкулярных інтарэсаў. Яднацца трэба нам, а не дзяліцца.

*— Я чула, што ты пішаш успаміны?!*

— Пішу, але калі вырашу іх апублікаваць, дык запрапаную гэта толькі „Ніве". Толькі чытач „Нівы" зразумее мяне.

Гутарыла і фатаграфавала
**Ада Чачуга**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1990 - 10 - 30.**

*Kurier Poranny* апублікаваў — *Między Warszawą a Mińskiem* — выступленне ў пятніцу (26-га) ў Сейме беластоцкага пасла Путры, які гэтым паставіў кропкі над усімі „і". Намёклівае ў бок БДА, але ўпамінаючае БГКТ толькі як арганізацыю на шляхетным польскім утрыманні; без прозвішчаў, але згадваўшы Барскага як таго, які не ёсць у стане ўказаць на антыбеларускія ўчынкі ўладаў. Дамагаецца, каб мы кленчылі перад Польшчай ды слёзна прасілі ў яе прабачэння! За паклёпы, за нелаяльнасць, за змову з БССР. Абзываючы нас адарванымі ад грамадства у с я е Беласточчыны палітыканамі.

Вось з такім блаславеннем выйшлі мы на ўвесь рост, урэшце, на ўсяпольскую палітычную арэну. З упалохання нашым парламенцкім электаратам. З дрыжачымі войтамі па гмінах.

Такое ганенне беларускага актыву несумненна абмяжуе яго ўплывы. Усё пойдзе на ізаляцыю. Наш плюс, што мы прадбачылі гэта і не чуемся ў шоку.

**1990 - 11 - 09.**

Гутарка з Генікам Мірановічам. — Ідзе час палітыкаў, а не ідэолагаў; не рацыяў, але ігры. (...) — Публічнага шуму пра БДА да смешнага многа! Гэта ж групка толькі, моцна ўзброеных ідэямі і безнадзейна бедных матэрыяльна (калі параўноўвацца з іншымі). (...)

**1990 - 11 - 11.**

— Не стрымаўся я на інаўгурацыі культурнага года ў ГП БГКТ. Барскі, потым Ада Чачуга, пачалі знянацку есці БДА, што яно анты-БГКТ, і што можа сабе таму ісці прэч ад карыстання будынкам ГП, тэлефонамі, нават штатамі, etc. Не будзе паразумення БГКТ з БДА (...).

Вось так Барскі зноў вярхом. Падкрэсліваючы, што БГКТ толькі культурнай арганізацыяй, а не палітычнай, як БДА, выйграе ён недатыкальнасць з боку ўладаў (увесь odium польскага неспакою ў дачыненнях з беларусамі валячы, такім чынам, на БДА). (...)

**1990 - 12 - 22.**

(...) — Генік Мірановіч адкрыў у архівах школьнай куратарыі мноства многае пісьмовых просьбаў бацькоў ліквідаваць беларускія школы (у пяцідзесятых гадах, а пасля — нават і прадмет роднай мовы). Улады, кажа Генік, доўга супраціўляліся гэтай тэндэнцыі.

*„ЛіМ"* ад 14-га. Пазьняк фармулюе адраджэнскі працэс так: час аптымізму мінуў! Выратаванне ў трохадзінасці: Беларуская Дзяржава, Беларуская Школа, Беларуская Вера. Усё звязана зваротнымі сувязямі.

Асаблівасць БССР сёння ў тым, што яна небеларуская, штучная; што яна — фрагмент імперыі, якой ужо няма. Кавалак СССР у Анты-СССР. Антыкрамлёўская яна таму, што Крэмль ідзе на мадыфікацыі ды перайначанні. Беларускі камунізм — Вандэя камунізму (славянскага). (...)

Рэальна гледзячы, беларуская нацыя — гэта інтэлігенцкія недабойкі. Сама па сабе яна не ў сілах ужо аднавіцца; адновіць яе — гістарычны прымус. — Сёння я не ведаю такой сям'і ў Беластоку, у якой гадуюць дзяцей на непалякаў. Толькі памерці!

**1991 - 02 - 24.**

(...) Здзіўляе ажыўленасць Яна Чыквіна: акуратна вядзе *„Белавежу"*. Пераўтварыўшы яе ў самастойную арганізацыю, дабіўся датацыяў на выдавецтва (выйшла ўжо пяць, ці што, зборнічкаў). Не спадзяваўся я ад яго актыўнасці, калі ад імя Прэзідыума ГП БГКТ рэанімаваў гэтае аб'яднанне, заглухлае, і дэсігноўваў Яна — вечнага наракайлу — на яго чало (...).

**1991 - 02 - 26.**

У пакоі Максімюка ў „Ніве" амаль штодзень збіраецца цяпер хлопцы з БДА: заўсёды ёсць нешта абмеркаваць, узгодніць, вырашыць. У важнейшых справах клічуць мяне (як бы шануючы ўжо маю паўінваліднасць).

Падумаецца: грамадскі рух дэгенеруецца тады, калі ўзнікне ў ім нязменная эліта, група дзеячаў з адзіна слушнымі думкамі. Без руху элітаў — капцы для ідэі і таталітарызм!

*(працяг будзе)*

*Т л у м а ч э н н і:*

*— Кшыштаф Путра, тадышні пасол у Сейм РП ад беластоцкай акругі, які з парламенцкай трыбуны ўсяляк кляйміў беларускі нацыянальны рух, абвінавачваючы яго ва ўсіх галоўных грахах чалавецтва; яго выступленні ахвотна друкавалі газеты ў Беластоку, мазолячы нацыяналістычныя настроі ў грамадстве ў лепшых традыцыях даваенай эндэцыі;*

*— Ян Максімюк, адзін з лідэраў маладабеларускага руху ў Беластоцкім Краі, які потым адышоў ад яго, пішучы час-часам гратэскі пабудаваныя на матэрыяле свайго вопыту як нацыянальнага дзеяча.*

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Як калісь мералі час

Даўно таму людзі прыдумалі натуральныя гадзіннікі. У старажытным Егіпце, Вавілоне, Кітаі і Індыі 4—5 тысяч гадоў таму назад карысталіся **гноманам** — сонечным гадзіннікам. Вядома, што калі на прадмет падае святло, кідае ён цень. Гноман якраз выкарыстоўваў цень нерухомага прадмета. Дзеля такога гадзінніка будавалі каменныя абеліскі (слупы са стрыжнем), але паслужыць магла таксама жэрдка, нават нерухомы чалавек. Цень прадмета на працягу ўсяго дня кружыў разам з сонцам. Выконваў ён ролю стрэлак сённяшняга гадзінніка. Гноманы дзейнічалі толькі тады, калі свяціла сонца. У пахмурныя, дажджлівыя дні і ноччу былі яны непрыдатныя.

Цікава дзейнічаў **вадзяны гадзіннік**. Складаўся ён з пасудзіны і бачка, пастаўленых на сабе. У верхняй пасудзіне была дзірка, а ў ніжняй — мерка. У верхнюю частку „гадзінніка" налівалі вады, якая мала-памалу працякала ў пасудзіну з меркай. Паводле азначанага ўзроўню вады мералі мінулы час.

**Пясочны гадзіннік** (klepsydra) дзейнічаў на такіх самых прынцыпах, што і вадзяны. Быў ён вельмі прыдатны там, дзе не было вады. Пясок паспяхова выконваў спадзяваную задачу. Сёння таксама сустракаем гэтыя натуральныя „гадзіннікі". Неабходны яны, напрыклад, калі варым яйка ўсмятку.

За **агнявы гадзіннік** служылі свечкі або падобныя гаручыя прадметы. Былі яны пазначаны меркай і паліліся па ўмоўным часе. Спосаб гэты прымянялі ў старажытным Кітаі. Дайшла да нас нават легенда як адзін „гадзіншчык" рабіў пахучыя свечкі. Рабіў іх так, каб кожная гадзіна пахла іншай духмянасцю. Гаварылі тады: „Панюхай, якая гадзіна?"

Г. К.

## Вершы Віктара Шведа

### ЛЯЛЬКА НАТАЛЬКІ

Тэлевізар гучыць у хаце,
Уключыла яго малая.
Нервуецца страшэнна маці:
— Бачу, ніхто не аглядае!

— Не выключай экрана, мама,
Просіць гарэзная Наталька.
Тэлевізійную праграму
Аглянуць хоча мая лялька.

### ДЗЕТКА І КВЕТКА

Дзяўчынку просіць тата:
— Не зрывай кветак, Ната.
Бо ціха плачуць кветкі,
Калі сарвеш іх, дзетка.

Сарвала кветку доня,
Трымае на далоні:
— Не ўспамінай у хаце
Аб слёзах кветкі маці.

### ХАТНЯЕ ПРАДШКОЛЛЕ

— Зробім у нас прадшколле,
Я буду паняй Еляй,
Ты, мамачка — Натальկай:
Пазабаўляйся лялькай.

А ты, мой мілы татка,
Будзеш малым Уладкам.
Ты хуліганіш многа —
Пастой тут ля парога.

### РУКЗАЧОК

Сёння добры татулёк
Купіў Наце рукзачок.
І яна па цэлых днях
Яго носіць на плячах.

У ім заўжды кніжак шмат,
Зайчыкаў і малпянят.
У прадшколле з новым днём
Пойдзе Ната з рукзачком.



**Агнешка Якімюк** вучыцца ў VIII класе Пачатковай школы ў Нурцы. У мінулым годзе вельмі добра паказалася ў беларускім дэкламатарскім конкурсе ў Бельску. На жаль, не магла выступіць на цэнтральным аглядзе, бо якраз у гэты дзень у школе арганізавалася „ёлка". Агнешка палічыла, што школьнае мерапрыемства таксама важнае.

Агнешка цяпер з'яўляецца — разам з сяброўкай з класа — рэдактаркай школьнай газеткі „Сметнік". Працягваць навуку думае ў Беларускім ліцэі імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім.

**Тэкст і фота Міколы Ваўранюка**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### Мышка Пік-Пік на сцэне

Аднойчы мама павяла Вераніčку ў тэатр на спектакль „Тры парсючкі". Пік-Пік у тэатры, канечне, ніколі не была і ў надзеі, што там смачна кормяць, залезла ў Вераніччыну сумачку і добрасумленна праспала там амаль усё прадстаўленне. Але час ад часу ўсё-такі прачыналася. А пад канец адплюшчыла нават абодва вокі. Уразіла мышку, як дзеці і цёці ў масках ваўкоў ды парсюкоў выходзілі на край сцэны, паволна і прыгожа кланяліся, усе гледачы пляскалі ім у ладкі, дорылі кветкі і крычалі нешта незразумелае, але вельмі, відаць, прыемнае. І вось па вяртанні дадому задумалася мышка: жыццё ў яе шэрае, мышынае, ніхто не пляскае ёй у ладкі, кветкі не дораць, ды што там! Калі б такое было, каб усе глядзелі, не адводзячы вачэй, толькі на яе, Пік-Пік, і лавілі кожнае яе слова... Карацей, спакусілася мышка тэатральнай славай. „Я пастаўлю спектакль, і сыграю галоўную ролю!" — думала мышка. — „Але я ж не змагу ўсё рабіць сама... Трэба яшчэ артыстаў!"

Пабегла мышка да Пепіты. Праўда, тая актрысай быць не хацела, але Пік-Пік усё-такі яе ўгаварыла.

— Будзем ставіць спектакль „Тры парсючкі"! (Бо гэта быў адзіны спектакль, які мышка ведала). Рыхтуйся!

Пашыбавала мышка да Веранічкі, угаварыла. Тады да Максімкі. Максімка па маладосці год (дакладней, свайго аднаго годзіка) быў згодны на ўсё. Нарэшце будучыя акцёры сабраліся на адной канапе.

— А хто каго будзе іграць? — пацікавілася практычная Пепіта.

— Ну, — важна загаварыла мышка. — Я сыграю парсючка Наф-Нафа, які пабудаваў каменны дом. А ты, Пепіта, будзеш парсючком Нуф-Нуфам...

— Фі... — сказала Пепіта. — Парсюком! Я — высакародная кошка, і свіннёй ніколі не буду!

— Добра, добра... Тады парсючком Нуф-Нуфам будзе Максімка, парсючком Ніф-Ніфам — Веранічка, а ты, Пепіта, сыграеш ваўка!

— Яшчэ чаго! — абурылася Пепіта. — Як самую горшую ролю, дык мне! Сама ваўка ўграй!

— Я не магу ваўка іграць, — наздзьмулася мышка. — Я ваш галоўны рэжысёр. Няхай Веранічка ваўка сыграе!

— Не хачу! — пакрыўдзілася Веранічка. — Я дзяўчынка! Гэта непрыстойна!

— Максімка, будзеш ваўком? — у адчаі звярнулася Пік-Пік да апошняга кандыдата. — Будзеш бегаць за ўсімі і лавіць... Вось так: у-у-у!

Мышка паказала Максімку, як мусіць паводзіць сябе воўк, і Максімку гэта спадабалася. Ён сказаў „у-у-у!" і пачаў зараз жа ганяцца за Пік-Пік і Пепітай. Ледзь яго спынілі. А каго ж збіраецца іграць Пепіта?

— Прынцэсу... — сціпла адказала Пепіта. — Або каралеву. Кацінную.

— І я хачу прынцэсу! — заявіла Веранічка.

— Але ў нашым спектаклі няма ніякіх прынцэс! — пачала злавацца мышка. — У нас тры парсючкі!

— Ну вось і ІГРАЙ сама сваіх парсючкоў, — вільнула хвастом Пепіта. Веранічка пайшла да сваіх лялек, а Максімка яшчэ доўга лётаў за Пік-Пік са страшным крыкам „у-у-у" і хапаў яе за хвосцік.

Так з-за інтрыг і неразумення загінуў яшчэ адзін шматабяцаючы тэатр...

**Людміла Рублеўская**

# Студэнцкія Каляды











2 студзеня вечарам беластоцкія басаўцы наладзілі ўжо ў чарговы раз святкаванне Каляды.

— Мы сёння Вілею не можам святкаваць, бо яна бывае ў адзін-адзіны дзень года. Мы можам толькі рыхтавацца да гэтага свята, — удакладніў ганаровы госць сустрэчы айцец Рыгор Місеюк.

Святар, апрача паяснення, зачытаў Евангелле паводле Матфея, дзе гаворыцца аб нараджэнні Ісуса Хрыста. Удзельнікі ўрачыстага вечара згаварылі „Ойча наш". У такой атмасферы студэнты, а таксама і госці, падзяліліся просвірай і з энтузіязмам узяліся каштаваць святочныя стравы. На стройным, багатым стале з'явіліся традыцыйныя беларускія стравы — боршч, куцця, селядцы, смажаная рыба, капуста з грыбамі, варэнікі з макам, галубцы з грыбамі і іншыя. Мне асабліва пасмакавала куцця, а мой сусед-субяседнік, родам з Кашалёў, любаваўся варэнікамі і баршчом. Сяброўскія размовы наогул былі сугучныя з духам нагоды. Былі пажаданні і пахвалы. Усе дацанілі кулінарны талент басаўскіх дзяўчат. Іх вілейныя смакоцці вокамгненна знікалі з багатага стала. Настрой папаўнялі беларускія калядкі з гукаўзмацняльніка.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

## II Міжпрыхадская спартыўная алімпіяда

27—28 снежня 1994 г. у Беластоку адбылася спартыўная алімпіяда па валейболу. Мерапрыемства арганізавала Брацтва праваслаўнай моладзі. Удзельнікамі спаборніцтваў былі валейбалісты з усяе Польшчы, якіх апрача любві да спорту яднала і веравызнанне. На розыгрышы прыехала моладзь з Вроцлава, Варшавы, Беластока (некалькі валейбольных каманд) і з некаторых прыходаў Беласточчыны, між інш. з Супраслі, Заблудава, Гайнаўкі.

Так як і ў мінулым годзе найлепш паказалася каманда з Гайнаўкі, якая перамагла ва ўсіх матчах. Ігралі мы ў мешанай групе — 3 дзяўчаты і 3 хлопцаў. Можна сказаць, што нашыя ігракі — Юрка, Лёнік і Андрэй — шакіравалі публіку і канкурэнтаў дасканалай тэхнікай ігры. Дарэчы, хлопцы гуляюць у валейбольнай камандзе, якая нядаўна здабыла славу найлепшай у нашым рэгіёне. Атмасфера спартыўнага змагання не замінала наладзіць цікавыя знаёмствы. Найбольш сардэчныя кантакты мы завязалі з Супраслю. Нашая нефармальная кааліцыя раўнаважыла падтрымку балельшчыкаў беластоцкіх каманд — магутных лікам і супрацоўніцтвам.

Першае месца ўзяла Гайнаўка, другімі былі валейбалісты з прыхода ў Дайлідах, далей — Супрасль. Арганізатары ўзнагародзілі нас кашулькамі Брацтва і духоўнай літаратурай. Цешаць таксама новыя сяброўствы. Начаваць нас забраў у сваю хату Ярaслаў з Дайлідаў. Там чакала нас непрадбачаная камфортнасць. Наш гаспадар, ягоны брат і бацькі справілі нам амаль „грэчаскую" гасціну. Нават у шахматы гулялі.

— Я ўжо ўчора расставіў фігуры, — прызнаўся наш апякун і сябра Ярак.

**Яна Кандрацюк,**
**Гайнаўка**

# ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ

* * *

Гэтая мясціна знаходзіцца за рэчкаю Супраслю, у 3—4 кіламетрах ад вёскі Валілы (Гарадоцкая гміна). Называецца яна Перацёс. Перасякае яе невялікая крыніца. Было тут спрыяльнае месца на прыстанішча для паўстанцаў у 1863 годзе. Ежу паўстанцам вазіў Ліцвін, які служыў у валілаўскім двары.

Хтосьці данёс казакам, што Ліцвін ведае, дзе знаходзяцца паўстанцы. Казакі прымусілі Ліцвіна паказаць ім дарогу. Ратуючы сябе, той згадзіўся на здраду. Было гэта ў летні дзень, апоўдні. Ліцвін ехаў на чале побач з афіцэрам. Першы іх прыкмеціў вартавы паўстанцаў. Ён стрэліў і забіў афіцэра. Казакі акружылі паўстанцаў, многіх забілі і многіх забралі ў палон, але дзе каму ўдалося ўцячы.

На другі дзень па расправе над паўстанцамі казакі пагналі жыхароў Валілаў збіраць трупы і хаваць усіх у адну магілу, якая і сёння знаходзіцца ў Перацёсе. А падкія на чужое дабро людзі хадзілі ў Перацёс шукаць скарбаў і быццам дзе хто і знаходзіў каштоўнасці ў дуплах старых дрэў. І нават знаходзілі трупы паўстанцаў, якія, пэўна, залезлі ў дуплы, каб схавацца.

А Ліцвін, баючыся помсты, доўгі час хаваўся пад колам вадзянога млына ў валілаўскім двары, ад чаго ён пазней аглух.

* * *

Паводле народнага веравання дзяцел быў некалі чалавекам але згубіла яго прагнасць. А было гэта тады, калі Бог яшчэ па зямлі хадзіў у выглядзе старца. Падыдзе, пагаворыць з чалавекам, папытае што ды сабе пойдзе. Ідзе ён адной лясною дарогай, а дзень гэта быў святочны, аж чуе, стук нейкі далятае. Ён туды накіраваўся і што бачыць? Чалавек сасну зрэзвае. Падышоў да яго Бог-старац і кажа:

— Ты няйначай, чалавеча, забыўся, што сёння свята, і сасну абрубваеш?

— Не, не забыўся, а хацеў падрубы да заўтра падрыхтаваць, а то яшчэ нехта апярэдзіць і зрубае. Вось абчышчу з кары і пайду дахаты.

— Не, — кажа Бог, — нікуды ты ўжо не пойдзеш. Ты ўжо не чалавек. З гэтай пары ты зменішся ў дзятла і будзеш лётаць з дрэва на дрэва і штодзень дзяўбці яго.

Так яно і здарылася. Ніхто ніколі не бачыў, каб дзяцел па зямлі хадзіў. Лётае ён з дрэва на дрэва і толькі знае, што стукаць дзюбай па ствале.

*Сабраў і апрацаваў*
**Янка Целушэцкі**

# „Прыйдзе той час — да сваіх я вярнуся...”

Гэтыя радкі я ўзяў з верша таленавітага беларускага паэта, празаіка, публіцыста, выдаўца і палітыка Уладыслава Казлоўшчыка (сапраўднае прозвішча Казлоўскі). Час той, відаць, да нас прыйшоў, каб з забыцця ўзняць яшчэ адно забытае ў беларускай літаратуры і гісторыі імя.

Беластоцкая газета „Новая Дарога” 12 снежня 1943 года пісала: „Дня 13 лістапада 1943 года ў Менску, пры выкананьні сваіх нацыянальных абавязкаў, трагічна загінуў ад рук нікчэмных бальшавіцкіх бандытаў рэдактар „Беларускае Газэты” Уладыслаў Казлоўскі, народжаны ў 1896 годзе ў вёсцы Залесьсе Сакольскага павету. Пахавіны адбыліся дня 22 лістапада на Кальварыйскіх каталіцкіх могілках у Менску. Падаючы гэтыя сумныя факты да ведама грамадзянства, рэдакцыя „Новай Дарогі” выказвае сваё глыбокае спачуцьцё асірочанай сям’і нябожчыка. Чытачы й рэдакцыя „Новай Дарогі”.

Сапраўды, у лістападзе 1943 года нехта Іван Шнігер зайшоў у рэдакцыю „Беларускай Газэты” і стрэліў ва ўпор з пісталета ў яе рэдактара. Стрэл пачула Наталля Арсеннева, якая выбегла з суседняга пакоя і закрычала: „Трымайце, трымайце яго! Гэта той бандыт, які забіў спадара Казлоўскага”. Але было ўжо позна.

Тысячы беларусаў праводзілі ў апошні шлях нашага здольнага літаратара. Часопіс „Новы Шлях” адзначыў тады, што Уладыслаў Казлоўшчык „стаўся чарговай ахвярай бандыцкага тэрору на Беларусі і загінуў як жаўнер пры спаўненьні сваіх абавязкаў”.

Дзяцінства Уладыслава Казлоўскага прайшло на Беласточчыне ў роднай вёсцы Залессе. Пачатковую і сярэднюю адукацыю ён набыў у Саколцы і ў Гродне.

У 1916 годзе наш зямляк паступае ў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. А калі заснавалася ў Вільні беларуская вайсковая арганізацыя, пакідае семінарыю з мэтай паступіць у беларускае нацыянальнае войска. Адначасова ён запісваецца на кароткачасовыя беларускія настаўніцкія курсы пры Цэнтральнай радзе Віленшчыны і Гродзеншчыны, пасля заканчэння якіх накіроўваецца ў Сакольскі павет, дзе прымае ўдзел у арганізацыі беларускіх школ.

Пасля няўдалых у гэтым накірунку спробаў, з прычыны негатыўных адносін тагачасных павятовых школьных улад, Уладыслаў Казлоўскі вяртаецца ў Вільню. А калі заснавалася ў Менску Беларуская вайсковая камісія, пераязджае ў Менск.

У пачатку 1920 года ён працуе інструктарам беларускага нацыянальнага камітэта па пытаннях арганізацыі нацыянальнага і калапаратыўнага жыцця ў Ігуменскім павеце. А ў маі гэтага ж года Беларускай вайсковай камісіяй ён высылаецца ў Варшаўскую школу падхарунжых.

Пасля заканчэння ваеннай школы Уладыслаў Казлоўскі прызначаецца інструктарам у Першы батальён беларускіх стралкоў, які ўжо быў эвакуіраваны з Менска ў Лодзь. Праўда, праз год, у сувязі з ліквідацыяй беларускіх аддзелаў, пераводзіцца ў польскае войска як завадовы афіцэр.

Будучы паручнікам чыннай службы Ул. Казлоўскі не парывае сувязі з беларускім нацыянальным рухам. А ў 1930 годзе



звальняецца са службы і пераязджае ў Вільню. Тут ён поўнасцю аддае сябе творчай працы і палітыцы. Спачатку арганізоўвае гімнастычнае таварыства „Гайсак”, пасля з’яўляецца выдаўцом і рэдактарам часопіса „Новы Шлях” і адначасова адным з арганізатараў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі.

У гады вайны Ул. Казлоўскі ў акупіраваным немцамі Менску рэдагуе „Беларускую (Менскую) Газэту”...

Першыя творы Уладыслава Казлоўшчыка з’явіліся ў друку ў 20-х гадах. Гэта былі публіцыстычныя артыкулы на спартыўныя тэмы. Тады і выходзяць у свет яго першыя кнігі „Фізічнае выхаваньне грамадзянства” (1927 г.) і „Аб фізічным выхаваньні ў беларусаў” (1928 г.).

У 1930 годзе ён актыўна супрацоўнічаў з часопісам „Шлях Моладзі”, дзе вёў рубрыку „Куток для спорту”. Сам пісаў спартыўныя артыкулы, рэпартажы і друкаваў на старонках гэтага часопіса. Значны рэзананс у той час мелі яго матэрыялы „Рухавыя гульні і ігры” (н-р 3, 1930 г.), „Аб нямецкай гімнастычнай сістэме” (н-р 5, 1930 г.), „Ход-спацыр” (н-р 6, 1930 г.), „Плаваньне” (н-р 7, 1930 г.) і многія іншыя.

Адначасова са спартыўнымі артыкуламі добра пісаліся і літаратурныя творы. З друку выходзяць яго кнігі „Беларускія народныя песьні з Сакольскага павету” (1930 г.), „Плач Беларускай Старонкі-маткі па дзетках сваіх рэнегатах” (1930 г.), вершаваны раман „Путы каханьня” (1932 г.), зборнік паэзіі „Шляхам змаганьня” (1935 г.), вершаванае апавяданне „Казюк на кірмашы” (1940 г.).

У сваіх вершах і празаічных абразках Уладыслаў Казлоўшчык часцей за ўсё звяртаўся да беларускай моладзі. Яго верш „Песьня беларускай моладзі” быў тады нават гімнам беларускіх юнакоў і дзяўчат. Дарэчы, і музыку напісаў сам аўтар.

Патрыятычная паэзія і проза беларускага літаратара з Беласточчыны — гэта заклік да незалежнасці і адраджэння Беларусі. Ён смела і аддана заклікае свой народ ісці шляхам змагання, а тых, хто „на печы ў кажуху” сядзіць, „хай волі гром грыміць і будзіць, што дрэмлюць”. Паэт шчыра верыць у Беларусь і ў крывіцкі дух, а таксама спадзяецца, што „прыйдзе той час — да сваіх я вярнуся і ў Маткі я Роднай кутка папрашу”.

Творчасць Уладыслава Казлоўшчыка праз паўстагоддзе вяртаецца да яго землякоў, вяртаецца ў Беларусь, дзеля якой ён жыў, тварыў і змагаўся.

**Сяргей Чыгрын**

## Вершы Уладыслава Казлоўшчыка

### Хай нам жыве...

Хай нам жыве Беларусь дарагая
Сьмела да волі ідзе.
Мэты сваей хай хутчэй дасягае,
Люд свой да шчасьця вядзе.

Мы за Цябе, наша родна Краіна,
Сэрцам, душой стаімо,
А як надойдзе патрэбна хвіліна —
Сьмела жыцьцё аддамо.

Мы — дзеці працы. Ня страшны нам хмары.
Усім мы дамо, хто што варт.
Жыцьцё патрапім злажыць на аўтары,
Бо ў сэрцы ў нас — волі гарт.

Дык, брацьця, сьмела ідзём мы наперад,
Куйма адважна свой лёс!
Доўгай нядолі парвём стары нерат,
Што мохам крыўды парос.

Буры стагодзьдзяў нас загартавалі.
Беды для нас моц далі.
Нас не зальюць ўжо варожыя хвалі —
Мы стаімо пры рулі.

Дык хай жыве Беларусь дарагая,
Сьмела да волі ідзе.
Мэты сваей хай хутчэй дасягае,
Люд свой да шчасьця вядзе.

*1935 г.*

### Шляхам змаганьня

Пратром свае вочы, працоўны народзе!
Век ночы праходзіць. Ужо — разьвіднаньне.
Ідзём мы магутна, ўсе дружна, у згодзе
Шляхам змаганьня.

Бяз скаргаў, пакоры, а думна і горда
Імкнёмся да волі бяз ценю хістаньня;
Наперад ідзём мы няўхільна і цьвёрда
Шляхам змаганьня.

Мы ўжо не заплачам. Ні ў болі, ні ў страху
Ніхто не пачуе у нас нараканьня.
Бадзёра і горда пайдзём мы бяз жаху
Шляхам змаганьня.

Страсём сваю мляўкасьць. Пайдзём няўступліва.
Пакоры ужо ў нас ня будзе ні званьня.
Пайдзём мы ўсе горда, але справядліва
Шляхам змаганьня.

Наперад і разам, працоўны народзе!
Трымаймася дружна ў вянку аб’яднання.
Наперад! Супольна. У ладзе і згодзе
Шляхам змаганьня!

*1935 г.*

### Дух волі

З курганаў вяковых, са стогну стагодзьдзяў
Ускрэсьне дух волі — з трыумфам паўстане,
І ўсенькія енкі, што чутны ў народзе,
Заменіць ў змаганьне.

Пабудзіць да чыну, дасьць кліч ўсемагутны,
Завесіць працоўны наш сьцяг над Краінай
І дзейнай народ наш сярмяжны, пакутны
Папхне каляінай.

І пульсам магутным заб’ецца ў народзе,
Ахопіць змаганьнем і душы, і сэрцы,
Аж покуль ня прыйдзе пашана свабодзе,
А сьмерць паняверцы.

*1933 г.*

### Будзеш незалежнай

Няшчасныя дзеі Цябе гартавалі
І сілу давалі ў нядолі бязьмежнай —
Ты мусіш паўстаці мацнейшай ад сталі
І быць незалежнай.

Хаця б Цябе пекла ўсе сілы таптаелі,
Трымалі ў няволі рукою жалезнай —
Ты мусіш паўстаці мацнейшай ад сталі
І быць незалежнай.

Раней ці пазьней Ты зьбярэш свае роты
І пойдзеш у бой аканчальны, вызвольны.
Тады сьвет пачуе маланкі-грымоты
З пярунаў, што пусьціць народ паднявольны;
І злыдняўску страшну пачуе сьвет зьвягу,
І зьдзіўлена ўбачыць працоўных адвагу,
Што сьцяг свой крывавы адважна паднялі
І пліту нядолі звалілі жалезну.
Тады Ты паўстанеш мацнейшай ад сталі,
Каб быць незалежнай.

*1934 г.*

### Трымаймася горда

Як сіла варожа
На нас пачне зьвягу
І путы наложа
На нашу адвагу,
І сьціснуць нас крыўдай
Балюча і цьвёрда —
Трымаймася горда.

Калі вораг рукі
Нам сьціснуць ў кайданы
І кату на мукі
Мы будзем адданы;
Захоча зламаць нас
Усіх злыдняў орда —
Трымаймася горда.

Калі сьмерць загляне
Нам страхам у вочы
І клікаць нас стане
Да вечнае ночы;
Калі капцюрамі
Усьціснуць нас цьвёрда —
Трымаймася горда.

*1934 г.*




*БАРЫС РУСКО*

## Рэбус

Дзе той зачатак
карэння нашага —
ці ля крыніцы,
што акрапіў
слязамі радасці
прабацька?
Ці ў выкапня
з імем Пітэкантрап,
што кожнае сцябло
ўблытваў у свой нерат?
Ці ў істоты
з марскога вала,
што па зялёным беразе
ўздыхала?
А мо ў крыку,
што нарадзіў свет,
у полымі,
што аблілося потам?
Ці ў святле
цікуючым у вантробах
парадку скрытага?
Відаць, карэнне наша
ў подыху ласкі,
плыве з глыбіняў
цішыні,
дзе ў Моцы
права неаспрэчнае
тварыць намер свой.
Чалавек — рэбус
сатканы
з праменняў тонкіх,
ідзе па лесвіцы
ўстаноўленай
на полі шахматным
жыцця.

# ЮРКА ПЛЮТОВІЧ

Нарадзіўся ў 1947 годзе ў Бельску-Падляшскім. Закончыў аддзяленне рускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Жыве ў Беластоку. Выдаў наступныя паэтычныя зборнікі: *Niegdyś to znaczy nigdy* (1975), *Zasłyszane do końca* (1981), *Pusty zegar* (1987), *Motyl i kamień* (1992).

Аб вершах Ю. Плютовіча прыгожа напісаў Э. Стахура ў кніжцы *Wszystko jest poezją*: „Цудоўныя тэксты. Ад некалькіх год спадзяваўся прачытаць іх. Бязлітасна прыгожыя. Беспамылкова складаныя і простыя, без хітрыкаў. Паспешныя, а дакладныя як хуткая дапамога. Багатыя як сметнік метраполіі. Дзіўныя як жывое вока мёртвай рыбы. Хірургічныя. Андалюзійскі сабака. Бела-чорная вясёлка".

Прапаную ўвазе чытачоў нізку вершаў Ю. Плютовіча ў сваім перакладзе.

Віктар Швед

### КАЛЫХАНКА

Цягнік чорны, ночы бель, калёс стукат
блізкі.
Маладая, муж, пасцель, поўная сну
міска.

Вэлюм белы, чорны снег, а хто ж той
прахожы?
Адчытвае лёсу бег, праўдзіва
варожыць.

Вартавыя сон і цень, ў сне галовы
мокнуць.
Белы флаг плыве праз дзень і праз
ночы вокны.

Пані ў сне, цвярозы госць, крыкі ціш
трывожаць.
Куды едзе цягнік-лёс? Ніхто знаць
не можа.

### РАКА

Бераг. Сонечная вёска.
У сне іржалі коні.
У сне пясок у вуснах.
На другім беразе — сосны.

Паеду з драбінамі возам
праз зламаны мост.
Побач касцяка танка
з другой, файнай вайны.

Мой бацька падхарунжы
вернецца пасля крывацёку.
Ціхі шопат запалкі
за паўночным вакном.

Заклікаю каня,
луг, залаты бераг.
Заклікаю слова
каб яго верна сцерагчы.

Дзе зорка? Пад снегам.
Дзе язык? За зубамі.
Маці раніцай.
Бурыя ствалы сосен.

* * *

У халодных сенцах чакаю. Ступнёю
кранаю парог.
Між падножкаў усходаў вечнасць
госціць.
Па поручні з'язджае малады Бог.
Маладосць найчысцейшай
прыгажосцю.

Гадзіннік цікае як скакалка
аб пліты сцежкі. Свае бязвінныя вочы
адкрываю на царства ранку.
Я смерці какетку-коску адрэжу
ахвоча.

### ВЯСНА

Вясна гэта звон з глянцам сажы,
гарызонт гэта наша калыска.
Калі мы плывем лодкай даху
да млечных выспаў.

Дождж — непадзельнае царства
на сярэбранай вуліцы звоніць.
З цыганскай завушніцай жанчына
са спевам мушлю кладзе на далоні.

Быццам нейкі транспарант святочны,
як раса празрыстая трэль птушак.
Пяро ластаўкі распятай ў блакіце.
Чыю смерць за сцяной пачуюць вушы?

### ДЗЯЦІНСТВА

Сыход у даліну. Вогнішчы дымяць на
беразе.
Хаты без вокан на фоне неба.

Рака родзіцца з пёрыстых аблокаў.
Кахаем колер зямлі напярэдадні лета.

Адкрытыя нашы вочы на працяг
паветра.
У шкляной клетцы крадзецца вецер.
У палосах на вадзе чытаем запіс
захаплення.

Залатыя і рыжыя промні колюць
павекі.
Ступаем вобмацкам, цені танцуюць
наўкол вогнішчаў.

Нашая сцежка зарасла хмызнякамі
забыцця,
хоць неаднойчы праходзілі мы праз
сон.

Сіла што прымушае да павароту
гэта сіла апякунская і адначасова
бязлітасная.

Адкуль прыходзіш таямніца свету?
Цені вогнішчаў даўбуць шчыліны
ў камені.

# СВЯТАЯ МУЧАНІЦА ТАЦЦЯНА



Святая Таццяна нарадзілася ў багатай рымскай сям'і. Яе бацька тройчы выбіраўся консулам і быў тайным хрысціянінам. Сваю дачку выхаваў у духу богабаязнасці і страху Божага. Таццяна рашыла не ісці замуж, але прысвяціць сябе службе Богу і людзям. Стаўшы дыяканісай, яна дапамагала хворым і маламаёмным. Калі кесарам стаў шаснаццацігадовы Аляксандр Север (222—235), сапраўдная ўлада апынулася ў руках яго ных дарадчыкаў. Самыя вялікія ўплывы дасягнуў вяльможа Ульпіян, які быў лютым ворагам хрысціянства. Зноў палілася пакутніцкая кроў. Тады быў дадзены загад, каб хрысціяне пакланяліся рымскім бажаствам.

У той час злавілі таксама Таццяну і прывялі ў храм Апалона, каб пакланілася яна статуі гэтага бажка. У выніку яе малітваў Бог саслаў землятрус, які разбурыў статую і частку язычніцкага храма. Малітвы Таццяны пазней прычыніліся да знішчэння статуй іншых язычніцкіх бажаствоў — Дыяны і Зеўса. Яна сама перанясла вялікія пакуты ў імя Хрыста. Многія дні яе збівалі жалезнымі палкамі, цела калечылі брытвамі і падвяргалі іншым катаванням. Восем яе праследавацеляў, бачачы мукі і веру пакутніцы, паверылі ў Хрыста і прынялі хрышчэнне сваёй уласнай крывёю, калі адсеклі ім мячом галовы. Начамі анёлы лечылі яе раны. Мучаніцы Таццяне выкалолі вочы, адсеклі грудзі, але і гэтыя здзекі не пахіснулі яе веру ў Госпада. Калі яе не разарваў леў на цыркавай арэне, тады прыгаварылі яе на абезгалоўленне мячом, што здарылася ў 226 годзе. Разам з Таццянай у такі сам спосаб загінуў і яе бацька.

Памяць Святой Мучаніцы Таццяны ўшаноўваем 25 студзеня (12 студзеня па старому стылю).

С.Н

## З ДРУКУ

# ЗАКЛІК

Дарагія праз Хрыста Сёстры й Браты!

З Божае Ласкі Беларускі Народ атрымаў дзяржаўную незалежнасьць бяз збройнага цяпер за яе змаганьня й спадарожных зь ім крывавых людзкіх стратаў.

Бязбойнае й бяскрываваае ўжыцьцяўленьне аддаўніх лятуценьняў ды ймкненьняў лепшых сыноў і дачок Беларускага Народу да свабоды не адхіліла, усё-ж, перад цяперашнім ягоным пакаленьнем змаганьня за захаваньне й умацаваньне гэтае лёгка, здавалася-б, прыйшлае незалежнасьці.

Змаганьне за яе адбываецца, аднак, не на біцьвяных гонях, а на палёх ідэалагічнага дужаньня й абярненьня гэтае гістарычнае нагоды нацыянальнага ратунку ў вадчувальную кожнаму грамадзяніну, і вартасную яму запраўднасьць.

У кожным змаганьні, як і дзе яно ня йшло-б, спадзеў і задатак на перамогу дае ў першую чаргу пачуцьцё дагоднасьці бароненае справы Божай Волі ды ўпэўненасьць, што паслухмянасьць Знайвышнім наказам праз удзел у гэтым змаганьні ёсьць, якраз і зарукай гэтае перамогі.

Гэткую непахісную ўпэўненасьць, праўдзівым навучэньнем мудрасьці стварэньня сьвету ў ягонай рознасьці ды Хрыстовага наказу любасьці да найбліжэйшых, можа даць Беларускаму Народу толькі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква.

Нажаль, у сёньняшніх абставінах гэтай роднай Беларускай Царкве доступу да свайго Краю й месца там няма, а чужым і варожым сілам Расейскае Праваслаўнае Царквы, ды Польскага Каталіцкага Касьцёла дадзеная поўная свабода забіваць у беларускіх душах любасьць да свае Бацькаўшчыны, ды насаджваць у іх здрадніцтва на карысьць усходніх, ці заходніх суседаў.

Гэтае становішча ў рэлігійным жыцьці й слабасьць з гэтае прычыны нацыянальнага адраджэньня Беларусі, ды станаўленьня Ейнае дзяржаўнасьці, ідзе ня толькі з апанаваньня ўладнае структуры ўпорыста сабатажніцкімі рэштткамі былога савецкага апарату, але й больш яшчэ з уявы пагрозы павадной ролі адраджэнскага актыву, які той на Бацькаўшчыне й на эміграцыі, бачыць у адбудове нацыянальнае Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Усьведаміўшы гэтую горкую праўду, ня варта, аднак, упадаць у зьнявер, але йз згадам Божае Ласкі, што абдарыла нас незалежнасьцяй, у думцы, цьвёрда верыць у мудрасьць гэтае самае Знайвышняе Ласкі паклікаць, калі прыйдзе вызначаная пара, нашую Сьвятую Царкву да ратунку й умацаваньня найдаражэйшага ў сьвеце дару незалежнасьці.

А каб настаньне тае пары наблізіць і ўпэўніць, трэба маліцца й на гэтую мэту працаваць ды забясьпечваць гэтай вялікай мэце моцную базу дзеля ейнага ўжыцьцяўленьня. (...)

**Парахвіяльная Рада**
**Катэдральнага Сабору**
**Сьв. Кірылы Тураўскага**
**ў Брукліне**

*(„Царкоўны пасланец", сьнежань 1994 г.)*

# САБОР СВЯТОГА ПРАРОКА, ПРАДЦЕЧЫ І ХРЫСЦІЦЕЛЯ ІААНА



На другі дзень пасля Хрышчэння Госпадняга Царква ўсхваляе Святога Іаана Хрысціцеля. Быў ён тым мужам, на якім закончыўся шэраг святых прарокаў, што прадказвалі аб Збавіцелю свету. Гэта ён папярэднічаў і прарочыў прыход увасобленага Сына Божага і атрымаў ласку здзяйснення ў Іардане Хрышчэння Хрыста. „Анёл, апостал, мучанік, прарок, падсвечнік і прыяцель Хрыста, прарокаў пячаць, заступнік старой і новай ласкі, самы шанаваны сярод народжаных і светлы, ясны голас Слова" (г. зн. Слова Божага) — так усхваляе яго Царква.

Будучы сваяком Хрыста па маці, нарадзіўся на шэсць месяцаў да Хрыста. Многа гадоў свайго жыцця правёў ён на пустыні, рыхтуючыся да сваёй новай службы суровым жыццём, постам, малітвай і богабаязнымі роздумамі. З'явіўся ён над берагамі Іардана ў трыццацігадовым узросце. Сваёй місіяй рыхтаваў народ да прыняцця чаканага Месіі — Збавіцеля. Навучаў усіх, што да яго прыходзілі.

*І казаў Іаан народу, які прыходзіў хрысціцца ў яго: плод яхідніны; хто перасцярог вас, каб уцякалі ад будучага гневу? Зрабіце ж годныя пакаяння плады і не думайце гаварыць сабе: бацька ў нас Аўраам; бо кажу вам, што Бог можа з камянёў гэтых паднянць дзяцей Аўрааму.*

*Ужо і сякера ля кораня дрэў ляжыць; усякае дрэва, што плоду добрага не прыносіць, ссякаецца і кідаецца ў агонь.*

*І спытаўся ў яго народ: што ж нам рабіць?*

*Ён жа сказаў ім у адказ: у каго дзве адзежыны, то дай таму, хто не мае, і ў каго ёсць ежа, рабі тое самае.*

*Прыйшлі мытнікі хрысціцца і сказалі яму: вучыцель, што нам рабіць?*

*Ён жа адказаў ім: нічога не бярыце больш таго, што назначана вам.*

*Пыталіся ў яго таксама і воіны: а нам што рабіць? І сказаў ім: нікога не крыўдзіце, не абгаворвайце і задавальняйцеся платай сваёй.*

*(Лука, 3: 7-14)*

Паводле слоў царкоўных пісьменнікаў, Святы Іаан быў яснай заранкай, якой бляск перавышаў ззянне зоры, і якая прадвяшчала золак благаславёнага дня, асвечанага духовым „Сонцам" (Малах., 4:2) — Хрыстом.

Ахрысціўшы ў Іардане бязгрэшнага Агнца, закончыў і быццам прыпячатаў гэтым сваю місію. Будучы прапаведнікам пакуты без боязі, паказваў людскія заганы і ўсе шанавалі яго як прарока. Загінуў пакутніцкай смерцю — адсеклі яму мячом галаву па загаду Ірадыяды.

С.Н.

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXV. САБОР

Каталікі і уніяты разам з прадстаўнікамі караля не дапускалі нават і думкі, каб праваслаўныя маглі ўдзельнічаць у саборы. Берасцейска-Уладзімірскі біскуп Пацей замкнуў у Бярэсці і ваколіцы ўсе цэрквы, каб праваслаўныя не маглі стварыць малітву і правесці сабор. Ранкам 6 кастрычніка каталікі, уніяты і каралеўскія прадстаўнікі, не паведаміўшы праваслаўных дэлегатаў, скрытна падаліся ў Свята-Мікалаеўскую царкву, дзе пасля набажэнства было аб'яўлена аб адкрыцці унійнага сабора. Аднак ніякая дыскусія не была дазволена, таму ў той дзень на тым усё і закончылася. Удзельнікі гэтай імпрэзы добра сабе ўсведамлялі, што ўсё гэта фарс, які нічым нават і не нагадвае праўдзівага сабора і таму намагаліся перацягнуць на свой бок некалькі прадстаўнікоў ад праваслаўных, асабліва галаву праваслаўнай грамадскасці, князя Астрожскага.

У тым часе праваслаўныя сабраліся ў доме, дзе затрымаўся Астрожскі, і там чакалі ад раніцы і да вечара запрашэння на сабор. Не дачакаўшыся запрашэння, яны рашылі, што маюць права адкрыць свой самастойны сабор, незалежны ад каралеўскага, уніяцкага.

Экзарх Нікіфар меў дакумент ад патрыярха, у якім пацвярджалася, што ён валодае правам старшынствавання на саборах памесных цэркваў. Паводле прынятай у праваслаўнай Царкве традыцыі, ўдзельнікі сабора ўтварылі дзве палаты, г.зв. *колы*: кола *вышэйшае* і кола *ніжэйшае*.

Кола *вышэйшае* пачало сваю дзейнасць з таго, што накіравала дэлегацыю шасці духоўных да мітрапаліта Рагозы з запрашэннем, каб ён прыбыў да патрыяршых экзархаў дзеля абмеркавання іх далейшага ўдзелу ў працах сабора. Рагоза дэлегацыю не прыняў. Затым спрабаваў сустрэцца з ім князь Астрожскі, але таксама безвынікова. Пасля праваслаўныя накіравалі дэлегацыю да легата папы і прасілі, каб ім было дазволена прыняць удзел у саборы, бо яны ж папярэдне былі публічна запрошаны на яго самім каралём. Але і яны вярнуліся ні з чым. Нягледзячы на тое раніцай наступнага дня праваслаўныя, не трацячы надзеі на пагадненне, зноў выслалі дэлегацыю, але і яе сустрэлі вельмі варожа. Праваслаўныя ўсё ж не здаваліся і ў наступныя дні зноў выправілі дэлегацыю (пятую ўжо ці шостую па чарзе) і гэтым разам пачулі: *Што мы зрабілі, тое зрабілі. Мяняць ужо не можам. На добрае ці на ліхое, але мы аб'ядналіся з каталіцкім Касцёлам.* Тым і закончыліся ўсе намаганні праваслаўных правесці супольны кананічны сабор па справе уніі.

У такім становішчы праваслаўным не заставалася нічога іншага, як правесці свой сабор і аднесціся да паўстаўшага становішча. Нараду адкрыў экзарх Нікіфар і даў голас дэлегатам дзеля перадачы наказаў, дадзеных ім выбаршчыкамі. Выказалася вялікая колькасць дэлегатаў. Пераважалі сцверджанні: 1) уніяцкія біскупы — гэта дабравольныя здраднікі праваслаўнай веры і таму павінны быць асуджаны на патрыяршае і саборнае пакаранне пазбаўлення духоўнага звання, 2) без волі сабора ўсходніх патрыярхаў памесны сабор у Бярэсці не мае ніякіх правоў заключаць унію, а заключаная некананічная, незаконная унія нікога не абавязвае.

Работу сабора перапыніла нечаканае прыбыццё каралеўскіх дэлегатаў, каб прадстаўнікі праваслаўных зараз жа з'явіліся на уніяцка-каталіцкім саборы. Прытым каталікі і уніяты, на чале са Скаргам, накінуліся на праваслаўных, абвінавачваючы іх у здрадзе дзяржавы, у дапушчэнні на свой сабор „ерэтыкаў" (г.зн. пратэстантаў — МГ), экзарха Нікіфара абазвалі турэцкім шпіёнам і патрабавалі ў беларускіх і ўкраінскіх баяраў, каб тыя зараз жа прынялі *адзіную праўдзівую веру каталіцкую*. Праваслаўныя выслухалі гэтую лаянку каталіцкіх фанатыкаў спакойна, з абыякавасцю. Тады Скарга, пабачыўшы, што ягоная лаянка ды пужанне не далі ніякага выніку, замкнуўся з князямі Астрожскімі і стаў іх пераконваць, каб яны пакінулі праваслаўе і перайшлі ў каталіцызм, а калі яго словы не падзейнічалі, стаў пагражаць ім касцельным праклёнам, пазбаўленнем пасадаў, маёмасці і выгнаннем з краю. Аднак князі Астрожскія, як бацька Канстанцін (Васіль), так і сын Аляксандр, не перапужаліся пагрозаў каралеўскага фаварыта і не пахіснуліся. Скарга разам з каталіцка-уніяцкімі пасланцамі пайшлі не солана хлябаўшы.

На другі дзень (9 кастрычніка) каталікі і уніяты ў Свята-Мікалаеўскай царкве ўрачыста прысягнулі, уласнаручна падпісаліся і прыставілі свае пячаткі пад дэкларацыяй, што яны прымаюць усё прынятае ў Рыме Пацеем і Тэрлецкім, затым падаліся ў каталіцкі касцёл і там, супольна адспяваўшы „Te Deum", аб'явілі адлучэнне ад Касцёла (каталіцкага і уніяцкага) праваслаўных епіскапаў львоўскага Гедэона і перамышльскага Міхаіла, дзесяць архімандрытаў, у іх ліку архімандрыта Кіева-Пячэрскай лаўры Нікіфара, шаснаццаць благачынных і ўсіх праваслаўных святароў, хто не прыняў уніі, адначасна звярнуліся да караля з просьбай усіх гэтых адлучаных пазбавіць іхніх пасадаў і маёмасці ды паставіць на іх месца уніятаў.

Што ж, праваслаўнаму сабору нічога іншага не засталося, як зрабіць тое самае ў адносінах да уніятаў. Праваслаўныя аб'явілі, што *Святая Божая Усходняя Царква абавязвае нас і наш сабор, да таго што мітрапаліт Міхаіл (Рагоза — МГ) і з'яднаныя з ім іерархі пазбаўляюцца епіскапскай годнасці і свяшчэнства, епіскапскай улады і ўсяе духоўнай годнасці.* Прысуд падпісалі ўсе члены *вышэйшага* кола, у іх ліку благачынны Нестар Кузьміч з Заблудава, архімандрыт Супрасльскай лаўры Іларыён (князь Масальскі) і ягоны намеснік Генадзь, настаяцель Лявонцій з Мілейчыцаў і іншыя духоўныя з Падляшша. Затым праваслаўны сабор накіраваў каралю пасланне, каб той пазбавіў адлучаных ад праваслаўнай Царквы іх пасадаў і маёмасці, а на іх месцы зацвердзіў праваслаўных духоўных. *Ніжэйшае* кола сабора таксама *дала клятву веры, сумлення і гонару* не прызнаваць іерархаў-адступнікаў. Затым абодва колы вынеслі рашэнне пад якім падпісаліся ўсе члены. У рашэнні, між іншым, гаварылася: *Клянёмся верай, сумленнем і гонарам ад свайго імя і нашчадкаў не слухаць гэтых, асуджаных саборам, мітрапаліта і епіскапаў, не падпарадкоўвацца ім, не прызнаваць іхняй улады і наколькі даецца супрацiўляцца іхнім загадам... і цвёрда трымацца нашай святой веры і праўдзівых пастыроў нашай святой Царквы, асабліва нашых патрыярхаў, не адступаючы ад старога календара* (г.зн. юліянскага).

Аднак, на жаль, кароль не прыхіліўся да тых, на чым баку была праўда. Спецыяльным універсалам ад 15 кастрычніка 1596 г. ён аб'явіў, што унія знаходзіцца пад каралеўскай апекай, значыць, набывае правы дзяржаўнай канфесіі, а праваслаўная Царква і яе веруючыя пазбаўляюцца ўсіх правоў. Такі быў пачатак пакутнага крыжовага шляху праваслаўнай Царквы ў Рэчы Паспалітай.

**Мікола Гайдук**




### У новы год у паход

Новы год.
У паход!
Смела і адважна
А пры тым развыжна
У любві
Нам расці
На духоўнай ніве
Шпарка, не лянiва.
Прэч! Далой!
Ідзем у бой
З эгаізмам,
Нігілізмам.
Дык давайма
Дбайна
У сэрцы
Адкрыем дзверцы.
Дык чаму
Аднаму
Бой вясці?
Усім ісці!
Будзе нас дружына —
Моцная пружына,
Што як адаб'ецца —
Вораг разарвецца.
Яшчэ час
У сам раз
Аглянуцца,
Разгарнуцца.
І наш род,
Увесь народ,
Беларусы —
Не трусы.
Дзе наша павага —
Там наша адвага.
Дзе наша карэнне —
Там наша збавенне.

**Мікалай Панфілюк**

### Дзень і ноч

дзень і ноч
белае і чорнае
бачнае і нябачнае
днём бачым творы
прыродныя і чалавечыя
рэчка плыве
дамы стаяць
ноччу адбываецца
найбольш здарэнняў
так ад вякоў
дзень паказвае ўсё
ноч усё закрывае

**Аўрора**

# ІКОНЫ

## Частка XVIII

Працяг рэляцыі маёй маці аб сваім падарожжы ў Пячэрскую лаўру прадстаўляе несумненна гістарычную, этнаграфічную і рэлігійную цікавасць і таму прыводжу яе ў даслоўным запісе:

„Я яшчэ забыла таго сказаці, што той бацюшка з Бярэсця, каторы нам радзіў, каб мы ні ішлі праз Львоў то яшчэ сказаў так: „Идите всё время так, чтобы утрочком вам солнышко светило в левую щеку, немножко позже прямо в глаза, а после обеда в правую щеку". Ну то мы так ішлі цэлы час. Ну, ведомо, што мы і людзей пыталі куды і як ісці. Але было ў нас і такое, што мы ішлі цэлы дзень і вечарам вярнуліся ў тую меснасць, з каторае выйшлі рано. Але гэто было там на заходнёй Украіні, дзе на нас кідаліся за тое, што мы праваслаўны і яны сіхібо так нас спецыяльно накіравалі, каб мы паблудзілі, бо людзі там урэдны.

Ну, але ж я табе ўжо сказала, што, так чы сяк, мы ўсё такі дайшлі на дванцаць дзевяты дзень да Кіева. Але, ведомо, што мы валаклі вялікі мяшкі за плячыма, бо неслі ні толькі ежу але і кажда з нас несла посцілку і радно, каб было на чым легчы і чым прыкрыцца. То мы, калі ужэ дашлі да тае Пячэрскае лаўры, то ўззлі і пакінулі сваё мяшкі ў такой начлежцы, што была блізко ад Лаўры. Там мы і начавалі. Ой, колькі там было падобнаго да нас народу! Усе пакотам, як следзі, лежалі чалавек каля чалавека. Затое трэбо было вельмі мало плацiці. Усяго ж пару капейкоў. Мы баяліся, каб нас не абкралі але нічого такого ні сталасё. Памылі мы ногі, абулі чаравікі і пашлі ў Пячэрску лаўру. Божэ мой, Божэ! Якое там хараство! Колькі там іконаў, а райскі варота то цэлы з золата. Так зіхацелі, што ні можно было ад іх ачэй адарваці. А колькі там было народу! Як мурашчок. І вельмі много разных нячшасных, без рук, без ног або сляпых. Але много і нармальных здаровых старых і вельмі маладых, і хлопцаў, і дзяўчат, і дзяцей таксамо. І хоць то быў чужы народ то і мне, і маёй мамі, і ўсім нам здаваласё, што гэты людзі ўсе нам і блізкі, і родны. Бо ведомо, што ўсе мы там былі праваслаўны і вера ў нас адна і Бог у нас адзін, то і душа ў нас адна. Былі мы там тры тыдні і кажды дзень хадзілі ў лаўру і там шчыро маліліся. І трэцяго дня пашлі галодны, выспаведаліся і прычасціліся. Далі мы ўсе ахвяру. Я то дала адзін сярэбраны рубель, а мама то далі аж дзесяць залатых рублёў. Гэто былі вялікі грошы, бо тады карова каштавала дванцаць рублёў. Але ніхто не шкадаваў ахвяраваных грошай, наадварот, цешыўся, што яго грошы пашлі на Боску славу.

Яшчэ можэ скажу пра споведзь. Бацюшка мяне пытаў пра грахі, то я яму сказала, што і бацькоў ні слухаю, і часам ніпраўду гаварыла, а ў канцы то сказала, што біла бічом жывіну, калі яна ішла ў шкоду. А на гэто бацюшка сказаў: „Ну, дочэнька, это небольшой грех".

Кажда з нас купіла за пару капеек іконку і пару свечак і памаліўшыся астатні раз мы ужэ пастанавілі ісці назад. І так ужэ нам зрабіласё лёгко на душы, што мы пад сабою ног ні чулі. Перанachавалі мы астатні раз і рано памаліліся і пашлі назад. Нам людзі дарадзілі, каб мы ішлі другою каротшаю дарогаю, праз Пінск. Ну, то мы так і пашлі. І я не ведою, чы гэто тая дарога была на праўду каротша, чы можа нам ад тае Лаўры сілы прыбыло, але назад то мы ішлі ні дванцаць дзевяць дзён, але ўсяго толькі дванцаць штэры дні, бо толькі гузельчыкаў я на вяровачцы завязала. То значыцца, ішлі мы праз палешуцкі край. Там кругом народ гаворыт так як нашы падляшы. І той народ праваслаўны, і добры хоць вельмі бедны. Хоць яны там, гэты палешукі, бедны то памагалі нам чым хто мог. Найчасцей то нам бульву давалі, То мы сабе ў лесі назбіраем сухого галія, напалім добра зямлю, кінем бульву ў прысок і спячэм яе. Ну, мне здаецца, што нічого на свеці не было больш смачнаго, чым тая бульва, бо ведомо, што мы ішлі без гарачае стравы много дзён.

Ну, што яшчэ я хацела б сказаць? Сіхібо тое, што той палешуцкі край вельмі зялёны, балоцісты і вадзяны. Хоць і ў нас ні бракуе зямлі, але ні толькі як ген у тых палешукоў. Яшчэ хачу сказаці, што можэ разоў пяць мы бачылі як палешукі вывалакалі вяроўкамі з балота свае каровы, калі яны загразлі. І яшчэ такое дзіво. Каровы там ні вялікі, валахаты і з вельмі вялікімі плоскімі бакамі. І якія яны разумны. Як толькі такая карова загразне то зараз бах на гэты плоскі бок ляжэ і жджэ пакуль яе ні вывалакут. То ж яна разумна жывіна! Ну, а гэты вялікі плоскі бакі то для таго, каб карова ні падала ў балото. Бачыш ты, як гэто разумно Бог зрабіў. У нас такіх кароў німа, бо і такого балоціска німа".

**Алесь Барскі**

# 1995 — год Марса і Белага Мядзведзя

У астралагічны год Марса Зямля ўвойдзе 21 сакавіка 1995 г. Марс гэта планета рымскага бога вайны. У яго год войны непазбежныя. Асаблівая небяспека вайны вісіць над паўночнай Афрыкай, Каўказам, Кітаем і Тыбетам ды над... Беларуссю.

Паколькі Беларусь не мае вонкавых ворагаў, беларусы будуць змагацца між сабою. Вельмі жорсткі ўнутраны закалот скончыцца праўдападобна перамогай апазіцыі, але яна мусіць змагацца да ўпаду, а перамогу акупіць вялікімі ахвярамі.

Згодна зараастрыйскаму гараскопу год 1995 гэта год Белага Мядзведзя (бррр...). Гараскоп гэты вельмі падобны да папярэдняга. Беларусі наканаваны асобны лёс. Усё, што ў ёй адбудзецца, паўплывае на шмат якія іншыя краіны, дзе дагэтуль пра Беларусь нават і не чулі. Ужо 16 лютага абвострыцца грамадска-палітычнае становішча. Вялікую ролю адыграе ў тым апазіцыя. Вельмі напружаным месяцам будзе май, а завершацца ўсе падзеі ў кастрычніку. Прадбачваецца ў ім нечаканы палітычны паварот і стварэнне нечага новага.

Столькі астралогія. Людзі не чакалі прыходу Марса з Белым Мядзведзем. Кроў ліецца ўжо ракою на Каўказе і ў Алжыры. На Беларусі пакуль што не страляюць. Усё ж такі ў снежні адбыўся ў Менску вялікі кулачны бой. На мерапрыемства расейскіх фашыстаў (арганізаванае беларускім адгалінаваннем партыі Жырыноўскага) уварваліся прыхільнікі БНФ і цяжка пабілі абвешаных свастыкамі баевікоў-ахоўнікаў. У рух пайшлі крэслы. Госць з Масквы, вядомы расейскі нацыянал-бальшавік Эдуард Лімонаў, уцёк праз акно.

Прыпамінаецца славуты кулачны бой у снежні 1917 года ў тым жа Менску, калі бальшавікі разагналі I Усебеларускі з'езд. Тады расіяне пабілі беларусаў, якія хацелі адлучыць Беларусь ад Расеі, цяпер наадварот, беларусы пабілі расіян, якія хочуць далучыць Беларусь да Расеі. Можна спадзявацца, што кулачны бой у снежні 1994 г. будзе калісь таксама лічыцца гістарычным. Пачатак года Марса адзначаны будзе ў Беларусі праўдападобна 25 сакавіка. Хто каго паб'е — „поживём, увидим".

У Польшчы, дзе сваркі, мітынгі і вулічныя бітвы гэта звычайны элемент палітычнай гульні, нічога надзвычайнага не адбудзецца. Проста, усяго таго будзе больш. Пераможцам з гэтай „przepychanki" мае выйсці нехта звязаны з медыцынай або з войскам. На маю думку будзе ім капрал Валэнса.

Самае цікавае, што мае адбыцца сёлета ў свеце, гэта рэвалюцыя ў Амерыцы. Прадбачванне падобнага выглядае абсурдным, усё ж такі прадбачваюць рэвалюцыю не астролагі, толькі палітолагі.

Пра тое, што дата рэвалюцыі пазначана маладзёжнымі гангамі на 1995 год, я прачытаў два—тры гады таму ў інтэрв'ю з нейкім чорным рок-музыкантам. З гэтай пары паказалася нават кніжка пад загалоўкам „Год 1995", якой аўтар прадбачвае, што сёлета палова амерыканскай арміі будзе ваяваць на вуліцах амерыканскіх гарадоў.

Рэвалюцыя на самай справе ўжо пачалася. Нававыбраны рэспубліканскі парламент непазбежна пачне змагацца з дэмакратычным прэзідэнтам. Гэта не будзе нармальнае палітычнае змаганне, бо гэтым разам супрацоўнікі проста сябе ненавідзяць, а рэспубліканцы ўспрымаюць сваё змаганне ў рэлігійным вымярэнні. Як вядома, рэвалюцыі звычайна пачынаюцца са змагання ўлады заканадаўчай з выканаўчаю, успомнім хаця б англійскую і французскую.

Падзенне Амерыкі ўсё такі не прадбачваецца. Занадта моцная гэта краіна. Знікне толькі амерыканская імперыя, сіямскі блізнюк савецкай.

Як не глядзі, будзе цікава, хаця не адзін успомніць кітайскі праклён: „Каб ты жыў у цікавых часах".

**Зараастр Блізнюк**

# Крылатыя словы

На шчасце не трэба спадзявацца, за яго трэба змагацца.

Хваляць — заткні вуха, крытыкуюць — слухай.

Чалавек не вучоны, як тапор нетачоны.

Дрэнныя тыя рукі, што не ведаюць ніякай навукі.

Асуджай чалавека паводле яго паводзін, а не слоў.

Высцерагайся каровы спераду, каня ззаду, а дурня з усіх бакоў.

Брахлівага сабаку здалёк пачуеш.

Мацярынская любоў ніколі не старэе.

Хоць уласны нос брыдкі, ды яго не адрэжаш.

Крумкач прадстаўляе, што яго малыя беленькія, а вожык — мякенькія.

Вялікі воз аб малы пень выварочваецца.

Вярблюда не напоіш лыжкай.

Арол мух не ловіць.

Каровы нага не заб'е цяляці.

Сэрца не абрус, перад кожным не разложыш.

І без пеўня ўзыдзе сонца.

Дзе дым, там і агонь.

Упартасць іголкай выкапае студню.

Нават найглыбейшая вада мае дно.

Мары ката і мышы не аднолькавыя.

Датыкаючыся балота, нельга не пабрудзіцца.

*Падборку зрабіў*
**Янка Падарожнік**




**Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты „Ніва"!**

Я ўпершыню пішу ліст у вашу газету, хаця з'яўляюся яе пастаянным чытачом. Я вельмі хацеў бы, каб вы надрукавалі мой ліст і каб нехта адгукнуўся на яго.

А наогул я, як малады 25-гадовы хлопец, вельмі хацеў бы пазнаёміцца з дзяўчынай звыш 18 гадоў або можа з сям'ёй з Польшчы. Сам я каталік. Не быў жанаты. Мне цяпер вельмі цяжка, бо страціў дзяўчыну, якую любіў. Яна загінула. А я на дадатак застаўся без работы. Увогуле адна бяда без другой не ходзіць. Можа знойдзецца пан або пані, якія дапамогуць мне з работай у Польшчы. Я гатовы выконваць любую работу. Магу працаваць трактарыстам, электраманцёрам, радыётэхнікам, мантажыстам. Работы не баюся. Я прайшоў вайну ў Афганістане і быў паранены, але рукі, ногі цэлыя і здароўе працаваць дазваляе.

Магчымы таксама абмен сем'ямі, якія займаюцаа гандлем. У мяне ёсць свая, з усімі выгодамі кватэра каля чыгуначнага і аўтобуснага вакзалаў. Вось і ўсё, што я хацеў бы, каб вы надрукавалі. Гэта мая амаль апошняя надзея. Спадзяюся, што дзякуючы вашай публікацыі мне не прыйдзецца падпісваць кантракт на наёмніцкія ваенныя сілы ў Югаславію. Мне не хочацца яшчэ аднаго Афганістана. На гэтым усё. Загадзя буду ўдзячны!

**Валерый Федаровіч**

Водгукі чакаю на адрас: 231300, Беларусь, Гродзенская вобласць, г. Ліда, вул. Чарнышэўскага, д. 6, кв. 5, Федаровічу Валерыю або па тэлефоне: (01561) 20549 — вечарам пасля 20.00.




Астроне! Сніцца мне, што я з'яўляюся чыёйсь уласнасцю. Не ведаю яго, не бачу. Ён дае загад свайму памочніку (малады і вельмі прыгожы хлопец) замкнуць мяне ў арышце. Я прашу яго, каб не замыкаў мяне. Усё гэта адбываецца за крамай, дзе я жыву ў сапраўднасці. Я там будую сабе дом са снегу. Раблю вялікія снежныя шары, а той хлопец мне памагае. Але падумала я: „Што ж гэта будзе за дом са снегу?" І прачнулася.

Астроне, што можа абазначаць гэты дзіўны сон?

**Люся**

Мне прыснілася, што я спаглядаю ў люстэрка. Гляджу на сябе са здзіўленнем: нібы заўсёды я была падобная на маці, а цяпер бачу, што я — копія бацькі. Што гэта значыць?

**Вера**

Люся! Сапраўды сон твой дзіўны: ідзі туды — невядома куды, прынясі тое — не ведаю што. Ты — нечая ўласнасць, але не ведаеш чыя! Але, бач, памочнік быў хлопец — экстра! І менавіта з ім ты будавала той дом са снегу. А снег абазначае добры ўраджай, прыбытак, добрае здароўе. Будаваць жа дом для цябе (відаць, што ты — маладая жанчына) абазначае нялёгкую працу, клопаты. Значыць, будуць нейкія цяжкасці ў дасягненні прыбытку. Не пашкодзіць табе, бадай, тая залежнасць, калі ты будавала дом з маладым і прыгожым хлопцам. А можа і тыя клопаты будуць з-за яго.

Вера! Твой сон сведчыць пра тое, што будзеш мець цяжкасці дзякуючы фальшывым сябрам, якія акружаюць цябе. Люстэрка — фальшывыя сябры, а бацька — заўсёды клопат.

**Астрон**

*ПАРАДЫ ГАСПАДЫНЯМ*

# Як ставіць банкі

Перш чым ставіць банкі, неабходна праверыць, ці не вышчарблены ў іх берагі, затым падрыхтаваць вату, дэнатурат, металічную палачку, запалкі. Калі банкі ставім мужчыне на грудзі, неабходна збрыць валасы, у іншым выпадку іх можна падпаліць. Ставіць банкі можна толькі на здаровую скуру. Скуру змазваем вазелінам.

Ставіць банкі трэба наступным спосабам: у левай руцэ трымаем банку ўверх дном, а правай уводзім у яе на 1—2 секунды палачку, на каторую намотана змочаная ў дэнатураце і запаленая вата (змочваць вату бензінам або эфірам не рэкамендуецца: бензін дае многа копаці, а эфір — вялікае полымя). У банцы, калі яе прыкладаем да цела, не павінна быць пылаючага спірту.

Калі банкі пастаўлены, хворага прыкрываюць прасцінай, або коўдрай і даюць спакойна паляжаць 10—15 мінут.

Знімаць банкі трэба наступным спосабам: левай рукой лёгка нахіляем банку, а правай у яе падставы націскаем на скуру; тады паяўляецца шчыліна, у якую пранікае паветра, і банка лёгка адпадае.

Банкі ставяць пры запаленчых працэсах у лёгкіх, бронхах, пры застоях крыві ў лёгкіх, пры неўралгіі і іншых хваробах.

**Ясень**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежных валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-321.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 389. Управа гміны ў Гарадку | — 20.000.000 зл. |
| 4 390. Зоя Смаршчок з Бельгіі | — 5.000 бельгійскіх франкаў |
| 4 391. Управа гміны ў Чыжах | — 2.000.000 зл. |
| 4 392. Міхал Голуб (Гайнаўка) | — 50.000 зл. |
| 4 393. Ян Ляшчук (Гайнаўка) | — 100.000 зл. |
| 4 394. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 150.000 зл. |
| 4 395. Сцяпан Андрасюк (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 4 396. Уладзімір Сахарчук (Крывая) | — 80.000 зл. |
| 4 397. Сцяпан Сахарчук (Крывая) | — 100.000 зл. |
| 4 398. Валянціна Шмукста (Кляшчэлі) | — 50.000 зл. |
| 4 399. Галена Анішэўская (Варшава) | — 96.000 зл. |
| 4 400. Натарыус Сцяпан Васілюк (Гайнаўка) | — 5.000.000 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1 zł (10 000 st. zł), a kwartalnie — 13 zł (130 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Сяргей Даўлатаў*

## З „Запісных кніжак"

*працяг; пачатак у 1 і 2 н-рах)*

Здарылася гэта ў Таліне. Спатрэбілася мне зашпілька. З тых, што называюць „маланкамі". Заходжу ў краму:

— „Маланкі" ёсць?

— Не.

— А дзе найбліжэйшая крама, дзе яны прадаюцца?

Прадавец адказаў:

— У Хельсінкі.

* * *

— Які ў яго тэлефон?

— Не помню.

— Ну, хаця б прыблізна?

* * *

Спатрэбіўся мне білет на цягнік у Маскву. Касы пустыя. Святочны дзень. Іду да начальніка вакзала. Начальнік кажа:

— Няма ў мяне білетаў. Няма. Ні аднаго. Сам верхам езджу.

* * *

Тыгры, напрыклад, паважаюць ільвоў, сланоў і гіпапатамаў. Мандавошкі — нікога.

* * *

Адзін мой сябра падчапляў жанчыну. Жанчына была старэйшая за яго і больш дасведчаная. Яна была надзвычай сексуальная і ахвотна дарыла каханне.

Мой сябра аказаўся з гэтай жанчынай у гасцях. Яму запрапанавалі перапачаваць. І жанчына засталася з ім.

Упершыню яны былі сам-насам. І мой сябра напіўся ад радасці.

Прачнуўся ён голы на падлозе. Жанчына пагардліва сказала:

— Мала таго, што ён не стаяў. Ён у цябе нават не ляжаў. Ён валяўся.

* * *

Мой дваюрадны брат Ілья Кастакоў кіраваў невялікім танцавальным ансамблем. Іграў у рэстаране „Алень". Аднойчы зайшлі мы туды з сябрам. Селі абедаць.

У антракце Ілья прысеўся да нас і кажа:

— Зайздрошчу я вам, хлопцы. Вы ясце, п'яце, падчэпліваеце жанчын, і для вас гэта радасць. А для мяне — суровыя рабочыя будні!

* * *

Цурыкаў, хлопец велізарнага росту, стараўся падчапіць у гасцях мініяцюрнае дзяўчо:

— Не смей! Гэта блага скончыцца!

— А што?

— Ты скончыш, яна лопне.

*(заканчэнне будзе)*
*Выбраў і пераклаў*
*Ян Максімюк*






Мал. А. Папова

## СЕНТЭНЦЫІ

Праўду шукай
паміж працілегласцямі,

* * *

Каханне, бы граніт,
рыхлее з цягам часу.

* * *

Упэўненасць нараджаецца ў сумненні.

* * *

Увайдзі ў сябе — і даткнешся да сонца.

* * *

Калі снайпер чысціць дула,
яго рукі ў крыві.

**Барыс Руско**

## У каго ты ўдаўся?

На панадворку бацька рубае дровы, а сын намагаецца загнаць у хлеў разбрыканае цяля і абкідае яго самай адборнай лаянкай. Бацька слухаў, слухаў, ды не сцярпеў і кажа:

— Іван, ідале паганы, якое халеры, антыхрысце ты няхрышчаны, праклінаеш свой дабытачак, каб цябе маланка спаліла з яснага неба, чарцяня ты лазатае, і ў каго ты ўдаўся, гэрад такі, каб ты халеры дастукаўся, сатана ты рагатая і ў каго так брыдка навучыўся гаварыць, скажы, аблуплены, га?

*(з народнага)*

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА




**Гарызантальна:** 1. жаночае імя, 3. Чарлі, слаўны комік, 5. італьянскі аўтар кніжак для дзяцей, 7. напр. Везувій, 9. дзве штукі, 10. багацей, 11. цячэ ў ярок, 12. двухколы воз у Сярэдняй Азіі, 14. замена большых грашовых наміналаў меншымі, 16. грамадскі лад на прынцыпах камунізму, 17. рэлігійная песня.

**Вертыкальна:** 1. возера на поўначы Еўропы, 2. жонка Аўраама, 3. магічныя прыёмы, 4. мястэчка на Гродзеншчыне, 6. недахоп зроку, 8. дарога паралельная да лініі фронту, 9. пратэстанцкі святар, 11. даўняя мера зямлі, 13. парабак, 14. пашкоджанне тканак арганізма, 15. аўтар першых музычных сцэнічных твораў у Сербіі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 49 н-ра:**

**Гарызантальна:** шчасце, Руслан, лапата, баск, гара, ініцыятыва, Азія, нара, браткі, калгас, прыход.

**Вертыкальна:** Шчэрба, цела, рута, Анкара, патрыярхат, Скінія, Гавана, азбука, развод, брас, Кіпр.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага і **Мікалай Сазановіч** з Навінаў-Вялікіх.

**МІНІ-ДАВЕДНІК**

**Енка** — сербскі кампазітар.

## АД ГАРЭЛКІ РОЗУМ МЕЛКІ *)

* * *

— Сёння я вас, гасцейкі, буду частаваць, як у іншых народаў частуюць, — кажа гаспадар гасцям.

— Як гэта? — не разумеюць госці.

— Чокацца адзін з адным будзем.

Але ў доме гаспадара... знайшлося ўсяго два кубкі.

Наліў ён у гэтыя кубкі віна, адзін узяў сам, другі падаў госцю. Чокнуліся, выпілі. Гэтак выпіў і з другім, і з трэцім, і з чацвёртым...

Раніцою гасцінны гаспадар сяк-так выбраўся з-пад стала і кажа сам сабе:

— О д'ябал! Нават я напіўся, а як... госці ап'янелі!

* * *

— Чаму ты з жонкаю развёўся?

— А таму, што яна амаль кожны дзень па рэстаранах бадзяецца.

— П'янствуе?

— Ды не, мяне шукае.

* * *

Размаўляюць два сябры-сабутэльнікі:

— Мінулы раз, у дзень палучкі, я дзесяць рублёў прапіў і, уяві сабе, жонка мне ні слова не сказала.

— Не можа быць!

— Праўда, вось ужо другі тыдзень са мной не размаўляе.

* * *

Суседка пытаецца ў суседкі:

— Чаму ты так рана прыбралася?

— Муж жа сёння зарплату прынясе — у тэатр пойдзем.

— Ах Божа мой, я і забылася, што ў іх палучка. А я ж яшчэ і закуску не падрыхтавала.

* * *

Прыйшоў муж дадому п'яны-п'яны. Жонка схапіла качалку ды давай яго біць:

— Будзеш яшчэ піць, будзеш яшчэ піць?

— Угаварыла. Налівай.

* * *

— Ну і жыццё пайшло, — скардзіўся падвыпіўшы Пятрок свайму сябру. — Жонка як завялася, дык цэлы тыдзень не супыняецца, лаецца.

— Не сумуй, калі гэтак сур'ёзна завялася, дык хутка так, як і мая, кіне цябе.

* * *

Раніца. Каля сельскага магазіна, на ганачку, спіць вартаўнік. Прыйшоў загадчык магазіна на працу і будзіць вартаўніка:

— Макар Ягоравіч, уставай, твая варта ўжо скончылася.

Вартаўнік працірае вочы, яшчэ не зусім прачнуўшыся, здзіўляецца:

— Як скончылася? Толькі ж нядаўна была цэлая паўлітэрка...

*) *З аднайменнага зборніка, які выйшаў у Менску ў 1988 г. у выдавецтве „Мастацкая літаратура".*




Сэрцайка! Сорамна мне, што і не ведаю, ці пісаць табе. Здавалася мне, што нашы дзеці былі заўсёды ізаляваны ад нас, бо былі яны ў асобным пакоі. Калі мы з жонкай кахаліся, дык заўсёды зачынялі дзверы, каб, не давядзі Божа, не падгледзелі, не падслухалі. Думалася нам, што калі б катарамусь з сынкоў прыйшло ў галаву заглянуць неспадзеўкі да нас, дык жа мы б пачулі адразу.

У кніжках я шмат чытаў пра тое, як дзеці падглядаюць бацькоў, а пасля хваляцца адно перад другім, што ведаюць, „як робяцца дзеці". Памятаю такі абразок з рамана Ірвіна Шоу „Люсі Краў". Стаяць дзеці за стадолай ды інтэрпрэтуюць усё гэта кожны па-свойму. Найлепш сказаў адзін. Каб нарадзілася дзіця, бацька загадвае маці: „Раскладзі ногі!", а пасля яны разам пачынаюць рохкаць, як свінні. Дзіця народзіцца роўна праз дзевяць месяцаў.

Пра такія рэчы я заўсёды чытаў і ўсміхаўся. Думаў: якія неразважныя бацькі. Нават пакахацца дыскрэтна не ўмеюць. Псуюць сваіх дзетак. І тады яны, замест таго, каб лялькамі гуляць, займаюцца нездаровымі для іх справамі.

А вось жа і нам надарылася такое. Неяк пасварыліся мы з жонкай. Хлопцы нашы ўжо спалі (шэсць гадоў і чатыры), але, відаць, наша гучная, нервовая размова іх разбудзіла. Аднак жа не адазваліся ніводным слоўцам і мы з жонкай былі ўпэўнены, што яны спяць моцным сном. На жаль, было зусім інакш. Мусіць, яны прытаіліся і слухалі, як мы сварыліся. Баяліся адазвацца, каб наша злосць не пералілася на іх.

Але, ведаеш, Сэрцайка, як гэта бывае паміж мужам і жонкай, асабліва, калі яны яшчэ маладыя. Перагаварыліся, пазлаваліся, а пасцель заўсёды мірыць. Толькі прытулішся — і ўжо злосць прайшла.

І мы пасля сваркі пачалі кахацца, як нарачоныя. Усе пачуцці здаліся свежыя, быццам бы мы першы раз былі з жонкай у пасцелі.

Кахаліся доўга і страсна, змянялі пазіцыі. Катастрофа прыйшла, калі жонка якраз сядзела на мне ў пазіцыі ездака. Было нам так добра, што я нічога не бачыў і не чуў. Усё адбылося неспадзявана. Невядома калі і як у нашым пакоі паявіўся наш старэйшы сынок ды... трэсь маці па задніцы! Колькі крыўды, злосці і незразумення было ў гэтым удары! Мы былі ў шоку. Схаваліся пад коўдру. А як выйсці, калі мы голыя?! Доўга давялося прасіць малога, каб ішоў ужо спаць. Хацеў ляжаць між намі.

Кепска цяпер сябе адчуваем перад ім. Не ведаем, што ён думае, што адчувае. Можа мы яго, няхочучы, пакрыўдзілі. Сорамна нам!

Андрэй

Ага! Ты, Андрэй, смяяўся з іншых, а тут і цябе падлавілі. А трэба пільнавацца. Пэўна, дзвярэй шчыльна не зачынілі, мо прычыніл толькі і ў парыве сваіх страсцей пра ўсё на свеце забыліся.

Гэта будзе вам навучка на будучыню, што нельга ў такіх дзетак будзіць нездаровых эмоцый. Маюць яны яшчэ на гэта час.

А што адчувае твой сын? Думаю, што не страх, бо інакш бы не ляснуў маці па задніцы. Хутчэй за ўсё — крыўду, а мо нават агіду — што было б ужо значна горш. Калі хлопцу ўжо шэсць, гэты абразок можа застацца ў яго памяці надоўга.

Аднак жа і ўвайшоў ваш малы ў тыя таямніцы, як кажуць, „з капыта".

**СЭРЦАЙКА**